PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (2127) Год XLII Беласток 16 лютага 1997 г. Цана 1 зл.

## Архіпелаг Канцлаг

Аляксандр Вярбіцкі

**Калі недзе год таму прыйшлося мне апынуцца ў Юшкавым Грудзе і я пачаў распытваць, хто б мог нешта з мінуўшчыны цікавага расказаць, мяне кіравалі да Глеба Саковіча. „Ён цікавіцца палітыкай, — гаварылі мне, — дык можа што раскажа; у мураванцы за паваротам жыве”. І ў тую ж хвіліну мае суразмоўцы глянулі ў бок аўтобуснага прыпынку: „Вунь ён на аўтобус сядае, у Беласток, пэўна, выбраўся”.**

Наматаў я тую вестку на вус і вось нядаўна падаўся ў Юшкаў Груд да чалавека, які „цікавіцца палітыкай”. Калі я прадставіўся, ён, замест талкаваць мне пра палітыку, моўчкі прынёс мне нейкія паперы. Глянуў я: былі гэта напісаныя па-нямецку пасведчанні Міжнароднага чырвонага крыжа — графік ваенных вандровак Глеба Саковіча па гітлераўскіх канцлагерах. 8.8.1942 г. дастаўлены ў беластоцкае гестапа; 24.3.1943 г. — канцлагер Люблін (н-р 4192); 2/6.4.1944 г. — канцлагер Нацвайлер (н-р 10556); 15/17.9.1944 г. — канцлагер Бухенвальд, каманда Дора (н-р 01803/89398); 7.10.1944 г. — лагер Эльрых; 1.11.1944 г. — канцлагер Мітэльбаў; адпушчаны ў пачатку мая 1945 г. з канцлагера Берген-Бельзен; прафесія — столяр; катэгорыя — палітычны зняволены. Калі прачытаў гэта, аж пацяплела мне — не



спадзяваўся я тут такое „палітыкі”.

— Тут напісана, што вам за палітыку так прыйшлося, — азваўся я.

— А якая тут палітыка! Як прыйшлі саветы, дык у нашу вёску прыехала двух маладых настаўнікаў, кавалераў. Яны заснавалі камсамол і я да таго камсамола запісаўся, хаця бацькі асцерагалі мяне перад гэтым. А зноў, калі з'явіліся немцы, мяне — магчыма, што за той камсамол — вызначылі на прымусовыя работы ў Германію. Сабралі нас, маладых, на зборным пункце ў Беластоку. Калі немцы павыходзілі, адзін кажа: „Не паеду на братоў бомбы рабіць”. За ім другі, трэці, і я чацвёрты. І ўцяклі мы цераз драты. Я падаўся да сваячкі, бо знаў, дзе жыла. Яна мяне раніцай вывела за горад і я вярнуўся дадому. Дома пытаюць, чаму я вярнуўся. Я адказаў, што лёгкія хворыя. „Дрэнна ты зрабіў, — сказалі бацькі, — але таго, што было, не вернеш”.

Неўзабаве, у нядзелю, пайшоў я ў Міхалова сфатаграфавацца. А ўжо нехта знайшоўся, што пра мяне ў жандармерыю далажыў. Стаімо, чатырох нас, у фатографа, а яго жонка кажа: „Ідзе гестапа з сабакам; у Гарымоўскую пайшоў, абстаўляць”. Увайшлі два гестапаўцы ды мяне і Уладка Каліноўскага забралі. А двух другіх пакінулі. Уладка падазравалі ў супрацоўніцтве з партызанамі; калі ягоных брата, жонку і дзяцей вывозілі ў Германію, яны неяк упрасілі, каб і Уладка разам. Пасля, калі іх вызвалілі саветы, ён пайшоў на фронт ваяваць, а пасля вярнуўся дадому.

[працяг ☞ 5]

## Незагоеная рана

Ганна Кандрацюк

**Магіла дваццаці чатырох праваслаўных жыхароў Заняў (гміна Бранск), памардаваных 2 лютага 1946 года *Oddziałem Pogotowia Akcji Specjalnej NZW* пад камандай Рамуальда Райса, мянушка „Буры”, знаходзіцца ў адкрытым полі, непадалёк вёскі. Гэтае месца, з грушай-дзічкаю, адзінокай сасной, нагадвае незагоеную рану ў пазначаным рыжымі скібамі краявідзе. Гэта таксама незагоеная рана ў памяці жыхароў польска-беларускага памежжа.**

Быў суботні, лютаўскі вечар.

— Да нашай хаты на вечарыну моладзь прыйшла, — успамінае Мікола А., тады 19-гадовы кавалер. Хлопцы ў карты гулялі. Мікола А. выйшаў на панадворак. Там пачуў крык: „Złodzieje!” І раптам згледзеў, як ад суседа нехта праз плот шмыгануў. Мікола А. разам са сваім суседам кінуўся ў пагоню за ўцекачом. Дабеглі да лесу і там пачулі галасы разведчыкаў.

— Kto tam? — папытаў іх мужчынскі голас.

— Wypych! — адпаліў сусед, католік. Тады Мікола А. пабачыў, як па дарозе са Свірыдаў цягнецца шнурок фурманак. Інстынктыўна павярнуў у вёску.

— Хацеў папярэдзіць людзей, — успамінае ён. — У той час часта наязджалі Зані ўсякае масці рабаўнікі. Сярод іх былі жыхары навакольных вёсак. Забіралі жывёлу, вопратку, яду, хатнія прылады.

Побач сваёй клуні Мікола А. наткнуўся на асобеня з вінтоўкай. Не разумеў, што сталася, нядаўняя версія з рабаўнікамі чамусьці не прыставала.

— Kto tu? — папытаў у сустрэтага маладзёна з аўтаматам.

— A kto pyta? — адказаў той дзіцячым галаском.

Тады Мікола А. ірвануў пад хату. З разбегу галавою ў дзверы грымнуў. „Уцякайце!” — крыкнуў і назад выскачыў -за дзверы. На вуліцы разносіўся крык і лунала зарыва пажарышча. Хлопец затрымаўся побач вішні, што расла на панадворку. Там сустрэла яго чарга з аўтамата. Мікола А. пераскочыў плот і зноў кінуўся ў поле. Уздагон прастрачыў чарговы абстрэл. Калі Мікола А. шчасліва апынуўся пад лесам, успомніў пра шапку, якую згубіў пад вішняй. „І чаму я такі дурны быў, — задумваецца ён, — што па шапку вярнуўся”. Зані былі ўжо поўнасцю акружаны. З двух бакоў вёскі наступалі ўзброеныя мужчыны. На панадворках таксама стаялі з нарыхтаванай зброяй. Мікола А. зразумеў, што папаў у смяротны тупік.

— Што з намі будзе? — папытаў яго ідучы побач старэча.

— Што? Паб'ют!..

— Што ты говорыш?!

— Хватіт ужэ, довольно, — адказаў абыякавым тонам Мікола А.

Свет яму ўжо нецікавым зрабіўся. Атупелы ад жудасці і жаху запамятаў, як ідучых разам з ім мужчын у канцы вёскі ніцьма палажылі. Расстрэлу чакалі пятнаццаць хвілін.

— Katolik czy Białorus? — прыставіў у пэўным моманце рэвальвер да галавы малады забойца.

— І што я мог сказаць, — паясняе Мікола А. — Як я не жыд, то і не гаварыў што жыд. Беларус, кажу. Іншыя таксама сказалі. Бо калі б папыталі, паляк ці беларус, — дадае Мікола А., — то, паляк адказаў бы.

На вачах юнака расстрэльвалі мужчын. Зганадага старэчу так абстралялі, што кроў быццам з бочкі лілася. Міколу А. ранілі ў шыю. Шчасце ўсё ж ахоўвала яго. Куля праляцела ўздоўж рукі і выйшла пад локцем. Пазней яшчэ раз выстралілі. І гэтым разам куля мінула яго. Мікола А. ляжаў сярод забітых і думаў пра свае боты. Баяўся, што прыйдуць разбуць і даб'юць тады. Калі забойцы адступілі падпаліць яшчэ ацалелыя будынкі, Мікола А. рашыў яшчэ раз кінуцца ў поле. За ім пачуўся зноў абстрэл. Адбегшы нейкія сто пяцьдзесят метраў, зваліўся ў баразну і пачуў, што ў яго нерухомая рука. Сваё ацаленне Мікола А. лічыць цудам.

— Людзі недарма кажуць, што на вайне салдаты толькі страляюць, — падсумоўвае Мікола А., — а Бог кулі раздзяляе.

Іншая жыхарка Заняў, Софія К., добра памятае той судны дзень. Было ёй тады 18 гадоў.

— Уварваліся з аўтаматамі ў хату і пытаюць, якога мы веравызнання.

Софія К., згледзіўшы няўвагу бандытаў, давай з маці ў поле ўцякаць. За імі і іншыя вяскоўцы беглі. А ўздагон ім ляцелі выстралы. Пазней памятае, як ачуняла і пабачыла пабітых сяброў. Над Софіяй К. галасіла маці.

— Я хацела падняцца і далей уцякаць, але не атрымоўвалася.

Маці стаяла над ёй і наказвала падымацца. Дзяўчына астаткам сіл дацягнулася да лесу. Пазней везлі яе жалезным возам у Бранск. І адратавалі там. Бацьку Софіі К. расстралялі на вуліцы. А яна, з перастрэленымі лёгкімі, сама не разумее, як ацалела.

Марыя Д. таксама памятае 1946 год. У гэты вечар з сяброўкамі сядзела.

— Мы збіраліся да суседа пад вакно, бо туды меў хлопец да дзяўчыны прыехаць.

Калі ў вёсцы раздалася страляніна, 15-гадовая Марыся падбегла засланіць

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Redaktor Naczelny „Przeglądu Prawosławnego" Eugeniusz Czykwin proponuje łączne traktowanie problematyki prawosławnej i białoruskiej. Chcę, żeby to były audycje akceptowane przez całą społeczność białoruską (?! — red.) — mówi E. Czykwin. W ich tworzeniu nie może uczestniczyć tylko jedna organizacja. Dobrym przykładem jest tutaj część prasy białoruskiej, która ze względów politycznych nie jest akceptowana przez większość środowiska. Według E. Czykwina tworzenie oddzielnej redakcji białoruskiej jest sprawą drugorzędną, a przyjęty przez kierownictwo TV Białystok kurs jest słuszny. Podobne stanowisko zajmuje Jan Syczewski, przewodniczący BTSK: — Język białoruski jest bardzo ważny, ale nie najważniejszy. Program powinien również docierać do Polaków. Według Syczewskiego programy białoruskie nie powinny tworzyć faktów politycznych i być zdominowane przez jedną opcję polityczną. Jeżeli chodzi o szczegóły to jest to sprawa dyrektora Pucziłowskiego — dodaje Syczewski.*

*Kurier Podlaski, nr 19*

Беларускія тэлеперадачы — малаважныя; беларуская мова — малаважная; беларуская культура — малаважная. А што для вас важнае, спадары?

* * *

*Białoruska kultura żyje także w osobach wybitnych twórców, z których międzynarodową sławą cieszą się Leon i Tamara Tarasewicz, małżeństwo z Hajnówki.*

*Nowiny Jeleniogórskie, nr 3*

* * *

*Kościół prawosławny nie uznaje kultu Maryi i prymatu papieża. Chrzest przyjmowany jest poprzez zanurzenie w wodzie całego ciała. Jak co roku program redakcji katolickiej proponuje „Prawosławne Boże Narodzenie". Czas emisji 30 minut.*

*Antena, 07.01.1997 r.*

Паранойя ці запланаваны парадак?!

* * *

*We wspólnym bloku programowym, obok audycji adresowanych do Białorusinów, Ukraińców, Litwinów, znajdą się materiały o życiu Polaków za naszą wschodnią granicą oraz narodowościach zamieszkałych na naszym terenie, takich jak: Tatarzy, Romowie, Niemcy czy Rosjanie. Nie może być tak jak dotąd, że Białorusini realizują audycje o Białorusinach...,* — сказаў адказны за праграму Беластоцкага тэлебачання Войцех Варатынскі.

*Gazeta w Białymstoku, nr 22*

Што за неталерантнасць! Пан Варатынскі забыў яшчэ пра іншыя народы, якія жывуць тут на Беласточчыне: армянаў, сербаў, тутэйшых, яцвягаў, палаўцаў, грэкаў, палякаў-праваслаўных, баптыстаў, іегавістаў, суботнікаў і стараверaў. І хай хто скажа, што гісторыя не паўтараецца. Кожны павінен вучыцца ад тутэйшых палякаў, як трэба весці палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Калі трэба, могуць яны нават даказаць, што рэалізуюць патрабаванне беларускіх дзеячаў (чытай першую цытату).

* * *

*W świadomości litewskiej są przede wszystkim rany zadane przez Polaków w XX wieku. Ugruntowały one przekonanie, że z Polakami trzeba ostrożnie, bo oni zawsze mogą zrobić coś złego. Polak, to przede wszystkim ten, co może oszukać. A używanie przez Polaków terminu „kresy" jest czymś w rodzaju „bliskiej zagranicy" o której mówi Rosja. Niby coś cudzego, zagranica, ale nie taka normalna, prawdziwa zagranica,* — сказаў Вітаўтас Ландсбергіс, старшыня літоўскага парламента.

*Kurier Poranny, nr 23*

* * *

*Więcej kultury! Ale co to jest kultura. Zjawiska uchodzące kiedyś za antykulturalne dziś są zaliczane do kultury. Różnica między kulturą a niekulturą zaciera się. Powiada się, że kultura to najlepsza odtrutka przeciw przemocy. Przemoc natomiast zagnieździła się we wnętrzu kultury jako jeden z jej węzłowych elementów i momentów antykultury, udającej z coraz większym powodzeniem kulturę. Chrześcijaństwo też było zaprojektowane jako religia przebaczenia...*

*Polityka, nr 4*

* * *

*W wykazie obowiązków przeciętnego katolika pojawić się powinny przede wszystkim czynny udział w kampanii przedwyborczej, w zebraniach i spotkaniach z kandydatami, prace w komisjach i, oczywiście, udział w wyborach,* — wypowiadali się delegaci na I Kongres Ruchów Katolickich.

*Kurier Poranny, nr 22*

Палітыка сёння з'яўляецца неадлучнай часткай рэлігійнага жыцця і таму слушна, што ўсе набожныя айцы выступаюць у ролі палітычных аўтарытэтаў.

* * *

*Bycie lesbijką to dziś w Ameryce klucz do sukcesu, jeden ze sposobów wejścia do świata elit. W Niemczech do swojego homoseksualizmu przyznaje się co dwudziesta kobieta. Podobnie w USA — 3 mln Amerykanek deklaruje, że kocha inną kobietę. 15 proc. mieszkanek Paryża nie ukrywa, że seks z kobietą nie jest dla nich doświadczeniem nieznanym. W Danii od ośmiu lat zakochane w sobie panie mogą się związać węzłem małżeńskim. W Polsce powszechnie uważa się, że związek dwojga ludzi tej samej płci to choroba. 87 proc. Polaków nie życzy sobie, by ich dzieci uczyła lesbijka. Socjologowie kultury twierdzą, że lesbizm będzie coraz bardziej awansował do rangi silnego prądu w kulturze masowej. Amerykańskie homoseksualistki to najbardziej bogata i wykształcona część kobiet.*

*Wprost, nr 4*

# З мінулага тыдня

**Міжнародны сімпозіум**, прысвечаны абмеркаванню дасягненняў і перашкод у выкананні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый у 1948 г., адбыўся ў Варшаве. Адкрываючы пасяджэнне, прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі** выказаў прызнанне абаронцам правоў чалавека, якія падвяргаліся рэпрэсіям у 70—80-х гадах і запэўніў, што праект новай польскай канстытуцыі змяшчае ў сабе сучасныя міжнародныя стандарты, якія гарантуюць асноўныя грамадзянскія, палітычныя і эканамічныя правы. Падкрэсліў ён, што гарантам плюралізму ў Польшчы з'яўляецца свабодная і незалежная прэса.

**Станіслаў Шушкевіч** — былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, якому ўрэшце ўдалося прыехаць у Польшчу, на прэс-канферэнцыі ў Варшаве сказаў, што пасля канстытуцыйнага перавароту, які адбыўся 24 лістапада мінулага года, уладу прэзідэнта Лукашэнкі можна параўнаць да аб'яднаных кампетэнцый Клінтана, Шырака і Мікалая II. Экс-спікер парламента звярнуў увагу на катастрафічную сітуацыю ў эканоміцы Беларусі, склаўшуюся ў выніку адмовы ўлад ад спроб правядзення якіх-небудзь змяненняў. На пачатку мінулага года 1 долар ЗША каштаваў 11,5 тысячы беларускіх рублёў, а ў палове студзеня г.г. — ужо 35-38 тысяч. У канцы студзеня цэны харчовых прадуктаў узраслі на 60%. Шушкевіч выказаўся за аб'яднанне Беларусі з Расеяй у эканамічнай, але не палітычнай сферы. На яго думку, незалежная Беларусь — гэта ў нейкім сэнсе гарантыя стабільнасці ў Еўропе.

**Славамір Галіцкі** — упаўнаважаны беластоцкага ваяводы па справах нацыянальных меншасцей 1 лютага г.г. перастаў выконваць свае абавязкі. Як афіцыйная прычына адстаўкі падаецца рэарганізацыя працы Ваяводскай управы, а не ацэнка дзейнасці ўпаўнаважанага, які крытыкаваўся Беларускім саюзам. Справы нацыянальных мешасцей будуць цяпер курыраваць адным з аддзелаў Ваяводскай управы, новы статут якой будзе распрацаваны да канца сакавіка г.г.

**Беластоцкае прадпрыемства таварнага транспарту ПКС** будзе ліквідавана, — вырашыла Дэлегатура Міністэрства скарбу. Фірма апынулася ў складанай эканамічнай і фінансавай сітуацыі, а спробы яе прыватызацыі шляхам хуткага продажу аказаліся безвыніковымі.

**У Белавежы** адбыўся міжнародны семінар па ахове асяроддзя, арганізаваны Цэнтрам прыродазнаўчай адукацыі Белавежскага нацыянальнага парку. Трыццаць чалавек з Галандыі, Швейцарыі, Даніі, Славакіі, Чэхіі, Нямеччыны, ЗША і Польшчы знаёміліся з дзейснымі метадамі аховы навакольнага асяроддзя.

**Куратарыя асветы ў Беластоку** паведаміла, што ў час зімніх канікул у Беластоцкім ваяводстве было наладжаных усяго 36 лагераў адпачынку для дзяцей. Толькі нязначная частка школьнікаў — 5 тысяч з агульнага ліку 140 тысяч — пакарысталася арганізаванымі формамі зімовага адпачынку. Менш моладзі чым летам прыехала на Беласточчыну з іншых раёнаў Польшчы. Кураторыі стала вядома, што ў Белавежы адпачывалі скаўты з Быдгашчы.

**У 18 Беластоцкай мотастралковай брыгадзе** былі знішчаны каля 3 тысяч нелегальных кампакт-дыскаў і касметыкаў, якія былі адабраны мытнымі службамі ў кантрабандыстаў на ўсходніх кантрольна-прапускных пунктах. Вартасць папаўшай пад гусеніцы танка Т-55 кантрабанды склала суму 30 тысяч зл.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Пра паліцыянта, які абкрадаў цэрквы** — карэспандэнцыя Андрэя Гаўрылюка
- **Пасляваенны лёс Фелікса Галавача, дзеяча Грамады і КПЗБ** — ва ўспамінах Юстына Пракаповіча.

# Весткі з Беларусі

**Пасланне ад НАТО**

На адрас прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі паступіла пісьмо ад генеральнага сакратара НАТО Хаўера Саланы. У пасланні гаворыцца: „Я і ўсе саюзнікі вітаем той факт, што Беларусь вывела ўсю ядзерную зброю былога Савецкага Саюза ў Расію, забяспечыўшы тым самым выкананне палажэнняў лісабонскага пратакола. Гэта падзея з'яўляецца значным укладам у еўрапейскую бяспеку". Падкрэсліўшы, што НАТО выступае за клімат даверу, падзяляе мэту фарміравання агульнай сістэмы бяспекі, якая адпавядала б у аднолькавай ступені інтарэсам усіх краін, Салана ў той жа час адзначыў, што НАТО не можа падтрымаць прапанову аб утварэнні ў цэнтральнай і ўсходняй Еўропе зоны свабоднай ад ядзернай зброі. Ён таксама падкрэсліў, што НАТО хацела б, каб Беларусь паўнацэнна ўдзельнічала ў структуры еўрапейскай бяспекі, заснаванай на сапраўдных прынцыпах супрацоўніцтва. У гэтым кантэксце ён адзначыў, што адносіны Беларусі з альянсам будуць у значнай меры залежыць ад прагрэсу дэмакратычных рэформ у рэспубліцы.

**Канкурэнтная прадукцыя**

Беларусь мае намер уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю. Цяпер вядзецца інтэнсіўная работа да падрыхтоўкі перамоў па аналізу мемарандуму аб гандлёвым рэжыме рэспублікі. Па працэдуры ён быў перададзены на разгляд у Сакратарыят гэтай арганізацыі. Але пакуль няма рашэння па некаторых спрэчных пытаннях, а ў прыватнасці, пастаўках на сусветны рынак беларускай тэкстыльнай і сельскагаспадарчай прадукцыі. Многія краіны-члены Сусветнай гандлёвай арганізацыі не зацікаўлены ў дадатковай канкурэнцыі з Беларуссю.

**Асацыяцыя з Грыбам на чале**

Яшчэ адна рэспубліканская недзяржаўная грамадская арганізацыя створана ў рэспубліцы. Гэта Беларуская еўраатлантычная асацыяцыя. У яе складзе — палітыкі, дыпламаты, парламентарыі, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. Сярод прыярытэтных напрамкаў дзейнасці асацыяцыі, па словах яе старшыні Мечыслава Грыба — умацаванне асноў незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі, пашырэнне яе прысутнасці на міжнароднай эканамічнай прасторы, спрыянне паглыбленню палітычнага дыялогу з дзяржавамі НАТО і СНД. Аб прызнанні новай недзяржаўнай структуры сведчыць той факт, што ў Рыме на 42-й Генеральнай асамблеі ў рамках Асацыяцыі атлантычнага дагавору яна была прынята ў якасці асацыятыўнага члена.

**Ратыфікацыя пагаднення**

На II нечарговай сесіі Палаты Прадстаўнікоў беларускія парламентарыі ратыфікавалі пагадненне паміж урадамі Польшчы і Беларусі аб супрацоўніцтве ў галіне аховы гістарычна-культурнай спадчыны.

**Сустрэча прадпрымальнікаў**

Трэцяя па ліку дзелавая сустрэча польскіх і беларускіх прадпрымальнікаў адбылася ў Гродне. На ёй абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва ў вытворчасці, экспарце і імпарце будаўнічых матэрыялаў, за выключэннем тых, якія выкарыстоўваюцца пры ўнутраным аздабленні і ўпарадкаванні інтэр'ераў

**Вяртанне ікон**

У полі зроку пасольства Беларусі на Украіне пастаянна знаходзіцца пытанне пошуку і вяртання помнікаў нацыянальнай культуры, розных дакументаў, якія маюць гістарычнае значэнне. Нядаўна ўкраінскім бокам беларускаму пасольству былі перададзены пяць ікон, якія ў 1942 годзе былі вывезены з Беларусі ў Нямеччыну, а ў 1948 годзе перададзены ў фонды запаведніка Кіева-Пячэрскай лаўры. На днях гэтыя іконы, датаваныя XVII-XVIII стагоддзем, былі дастаўлены ў Менск.

**Дзіцячы банк**

У Беларусі створаны банк даных на дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі, і малалетніх дзяцей, якія могуць быць перададзены замежным грамадзянам на ўсынаўленне. У банк уведзены звесткі на 321 дзіця. У аснове стварэння такой установы ляжыць імкненне дзяржавы ўпарадкаваць працэдуру ўсынаўлення беларускіх дзяцей замежнымі грамадзянамі.

Гайнаўка

# Новае ў малочным каапératыве

Пра Акругowы малочны каапера-тыў (ОСМ) у Гайнаўцы пісалі мы ў „Ніве" шмат гадоў таму. Што тут цяпер новага?

— Перш-наперш у мінулым годзе пусцілі мы ў рух сучасную аўтаматычную лінію для прадукцыі цвёрдага жоўтага сыру, — кажа старшыня ОСМ Андрэй Прызовіч. — Зараз працуе яна кругласутачна. Абслугоўваюць яе ўсяго тры асобы.

Цяпер у ОСМ апрача асноўнай прадукцыі (масла, сыры, смятана, тварог і т.зв. харчовае малако) выпускаюць усялякія салодкія тварагі самых розных смакаў, да таго яшчэ ёгурт і плаўленыя сыры „Белавежскія", між іншым з шынкай (кавалачкамі кумпяка), шчыпёркам (зялёнай цыбуляй), апенькамі, зёлкамі. Сыры гайнаўскага кааператыва маюць прыгожую ўпакоўку розных формаў і памераў. Цвёрдыя і больш трывалыя сыры, м.інш. „Падляшскі", „Эдамскі" і „Марскі" можна купіць у загадзя парэзаных і зважаных порцыях.

Для 25-тысячнай Гайнаўкі ды ўсяе гайнаўскай акругі (восем навакольных гмінаў), як аказваецца, дастаткова дзесятай часткі выпускаемых на тамашнім прадпрыемстве малочных прадуктаў. Рэшту адпраўляюць у паўднёвыя ваяводствы нашай краіны, у тым ліку ў Сілезію (Шлёнск) ды час ад часу на замежныя рынкі. На экспарт высылаюць шмат сухога малака.

Гайнаўскі ОСМ мае прадукцыйны рэзерв. Абы толькі было малако. Як вядома, зімою яго значна менш чымсьці ўлетку, а ўжо асабліва ў ліпені.

Цяпер ОСМ мае спецыялізаваны самаход, які ездзіць па сырадой да раскінутых там-сям вясковых злеўняў. Гэтая сучасная аўтацыстэрна мае абсталяванне, якое адразу паказвае колькі ў ёй малака, яго тэмпературу, свежасць, тлустасць і... чыстату. Сёлета ОСМ намераны купіць яшчэ два такога роду спецыяльныя сродкі транспарту. Будуць ліквідаваны некаторыя злеўні, дзе сяляне прыносяць мала малака. Туды будзе прыязджаць вышэйзгаданая спецыялізаваная аўтамашына з цыстэрнай і прымаць сырадой нават з конаўкі, бітона.

Ужо зараз самаход-цыстэрна забірае малако з дванаццаці панадворкаў тых гаспадароў, якія гадуюць многа малочных кароў і ў якіх мае яно еўрапейскі стандарт. Як яны гэтага дасягнулі, гэта асобная тэма. Усё ж гэта такая навінка, якая сведчыць аб тым, што і наша вёска прыбліжаецца да Еўропы! **(яц)**

# Зялёная лабараторыя

Белавежскі нацыянальны парк, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў, з'яўляецца вялікай навукова-даследчай лабараторыяй. Амаль ад пачатку яго існавання вядуцца ў ім назіранні вучонымі не толькі з Польшчы, але і ўсяго свету. Праз тэрыторыю парку прайшло іх... вось, менавіта, колькі? Пакуль што, ніхто не падлічыў, а варта было б! Вынікі даследаванняў над белавежскай прыродай публікуюцца потым у розных часопісах, кніжках ці падручніках. Узбагачаюць яны веды чалавека ў многіх галінах прыродазнаўчых навук.

У даны момант у БНП зарэгістравана 59 навукова-даследчых тэмаў. Распрацоўваюць іх некалькі дзесяткаў вучоных з розных навуковых асяродкаў у Польшчы (Белавежа, Беласток, Бельска-Бяла, Брвінуў, Варшава, Вроцлаў, Кельцы, Кракаў, Люблін, Ольштын, Познань, Седльцы, Торунь), а таксама з Беларусі (А. Буневіч з Нацыянальнага парку „Белавежская пушча", затым М. Пікулік і В. Сідаровіч з Інстытута заалогіі Беларускай акадэміі навук у Мінску), Францыі і Вялікабрытаніі. Замежныя вучоныя, як правіла, даследуюць белавежскую флору і фауну ў супрацоўніцтве з польскімі даследчыкамі.

Большасць з вывучаемых тэмаў выконваецца на працягу некалькіх гадоў, але ёсць таксама тэмы шматгадовыя і пастаянныя (прынамсі так іх акрэсліваюць самі вучоныя). Найстарэйшыя тэмы былі пачаты яшчэ ў другой палове 30-х гадоў, вядома, нашага стагоддзя. Звязаны яны з дынамікай натуральных лясоў і зменамі магнітнага поля Зямлі.

На матэрыяле сабраным з тэрыторыі БНП штогоду пішуцца працы на атрыманне ступені магістра і доктара навук. Зараз матэрыялы такія накопліваюць трое студэнтаў і адзін магістр.

Што цікавае, пры такой колькасці праведзеных даследаванняў, пушчанская прырода ўсё яшчэ не цалкам апазнаная. Вось, што і раз нехта знаходзіць тут новыя віды раслін ці дробных жывёл. Некаторыя з іх новыя для сусветнай навукі.

**Пётр Байко**

# Паяснілі справу

Нядаўна я наведаў войта Чаромхаўскай гміны Міхала Врублеўскага. У мяне былі дзве справы — вулічнае асвятленне ў вёсцы і падтрымка мясцовых чыгуначнікаў у справе аднаўлення курсіравання цягніка а гадзіне $5^{05}$ з Чаромхі ў Беласток.

Гутарку мы правялі ў канцылярыі сакратара гміны. Як мне сказаў спадар войт, вулічнае асвятленне на вёсцы на ўсю ноч непатрэбнае. Хопіць да поўначы.

На маю прапанову, каб лямпы гарэлі толькі на кожным другім стаўбе, прадстаўнік самаўрада адказаў, што гэта немагчыма. Дзеля гэтага патрэбна перабудова лініі. А вядома, што кошт гэтага мерапрыемства аграмадны.

— Можна справу паставіць радным на абмеркаванне, але тады не будзем вылучаць у гэтым Кузавы, — кажа спадар Врублеўскі. — У нас няма лепшых і горшых. Як рабіць усяночнае асвятленне вуліцы, то па вёсках усяе гміны. Мне здаецца, што гэтыя грошы маглі б быць прызначаны на другую мэту, больш карысную...

У справе курсіравання цягніка а гадзіне $5^{05}$ раніцы, — прадаўжае гаворку мой субяседнік, — мы ўжо рыхтуем адпаведнае пісьмо чыгуначнай дырэкцыі ў Варшаву. Дзівуюся толькі, чаму чыгуначныя чыноўнікі самі не могуць „прабіцца" з гэтай праблемай у сваім прадпрыемстве. Але калі патрэбна падтрымка, наша гміна ад гэтага не адказваецца.

Хачу адзначыць, што войт Чаромхаўскай гміны глядзіць на праблемы жыхароў сваёй гміны па-гаспадарску. Магчыма таму яго рашэнні пакажуцца некаторым „неадпаведнымі". Але я тут трымаюся прымаўкі: „Nikt się na świecie nie urodził, ażeby każdemu dogodził..." — якая тычыцца таксама кузаўскай праблемы вулічнага асвятлення. **(ус)**

# Больш культуры!

Ад восені мінулага года ўладальнікам крамы ў Кузаве з'яўляецца спадарыня Тамара Н. з Чаромхі. Яна купіла будынак ад даўнейшага кляшчэлеўскага ГСу. Акуратна яго абсталявала. Дбае пра пастаўку тавараў. Адно мне толькі тут не падабаецца — культура продажу і спажывання піва.

Да нядаўна гэты напітак прадаваўся ў святліцы. У краме забаранялася. Казалі, што мясцовы святар даў „запрет" у гміну, бо па другі бок вуліцы царква знаходзіцца. А вядома, што п'яныя мужыкі неаднойчы неакуратна сябе вядуць пасля празмерна выпітага піва.

Зараз піва тут прадаецца і зранку і ўвечары, бо так прадпрымальнік арганізаваў працу прадаўшчыцы, што апівака можа тут зайсці ў любы момант, пасядзець, як у бары.

І цячэ ручаёчкам піва ў кузаўскай краме, а грошыкі — у кішэню крамару. Палохае мяне тое, што некаторыя мужыкі праседжваюць тут гадзінамі, а пасля і балаган у хаце робяць. Няўжо ж на гэта можна дазволіць?

На маю думку, гміна і органы грамадскага парадку павінны бліжэй прыглядзецца гэтай справе і прывесці ў норму час працы кузаўскай крамы, а пры тым і продаж піва і яго спажыванне ў краме. **(ус)**

# З вялікага гуку...

У чацвер і пятніцу (6 і 7 лютага) выехаць з Бельска на Браньск было немагчыма. Ля дарожных указальнікаў стаяў паліцыйны „Паланез" упоперак дарогі, а побач яго, на ўзбочыне „Ныса" з функцыянерамі. І ўсіх заварочвалі.

Тры кіламетры далей, у невялікім ляску ля вёскі Шасталы перакулілася цыстэрна з газам прапан-бутан. Ратаўнічая акцыя ішла ад восьмай гадзіны 6 лютага да восьмай наступнага вечара. Першага дня бельскія пажарнікі і паліцыянты забяспечылі месца аварыі і самую цыстэрну і чакалі з Варшавы другую цыстэрну, у якую можна было б пераліць газ. Увесь другі дзень ішло пераліванне. Пра аварыю паведамілі ўжо нават цэнтральныя мас-медыі. А як у той час жылі людзі ў Шасталах, пра якія газеты напісалі: „Страшна было б падумаць пра лёс вёскі, калі б газ разліўся"?

Другая пасля поўдня, 7 лютага. З браньскай шашы даехаць у Шасталы немагчыма. Упоперак яе стаіць вялікі кран выратавальнай дарожнай службы і трымае на тоўстым сталёвым канаце — расцягнутым гарызантальна — паднятую ўжо на колы пашкоджаную цыстэрну. Другі кран з Бельскага будаўнічага прадпрыемства падцягвае яе ўверх. Знаёмы пажарнік кажа, што газ пампуюць ужо ад раніцы. Першыя шэсць тон пералілі ў другую цыстэрну з пашкоджанай, калі тая ляжала. Далей перапампоўваць з такой пазіцыі не далі клапаны і трэба было цыстэрну падымаць. Усяго газу было 19 тон.

Дзве цыстэрны спалучаныя тоўстым шлангам. Штосьці шыпіць. У паветры чуваць кіславаты пах. Але пажарнікі ходзяць у звычайнай палявой форме, у зімовых вушанках, без касак, без процівагазавых масак. Чырвоны мінібус падвёз гаршкі-тэрмасы з абедам.

Побач валяецца бляха з разваленай кабіны аўтацыстэрны „Мерседэс" і легкавога „Опеля", якім кіраваў грамадзянін Беларусі. Машыны ехалі насупраць, праўдападобна захутка на слізкай шашы і стукнуліся. Як ні дзіўна, шафёру „Опеля" нічога не сталася. (Як патэнцыяльны вінаўнік правёў ён нейкі час у арыштце. Быў цвярозы.)

Метраў дзвесце ад месца аварыі відаць будынкі, але ўсе гаспадарчага прызначэння: клуня, хлявы, павець, нейкі будан. Не відно хаты. З-за высокага плота чуваць брэх сабак. На браме надпіс: „Небяспечна! Не падыходзь!"

Каб дабрацца ў Шасталы — няцэлы кіламетр за месцам здарэння — трэба вяртацца ў Бельск і падаць на Пілікі. Раблю кіламетраў сем. У вёсцы якраз пачаліся вячэрнія гаспадарчыя справункі. Каля калодзежаў мычала жывёла, каля яе мясілі адліжаныя астаткі снегу гаспадары. Ідылічныя абразкі не прыводзілі на думку апакаліптычных сцэн магчымай хімічнай атруты.

— Людзі ў вас не баяцца? — пытаюся солтыса Яна Чаркоўскага.

— Можа хто і баіцца, — адказаў солтыс, падумаўшы. — Што я за людзей буду гаварыць. Але трывогі ў нас ніякай не аб'яўлялі. Я нават нічога не бачыў, бо на *выстэмпы* то добра паглядзець, але не на бяду.

Аляксандр Пугацэвіч з Шастал ехаў на сваім „Чынквечэнта" ў Бельск. Самога інцыдэнту не бачыў.

— Вадзіцель аўтацыстэрны ляжаў ужо побач разваленай кабіны,— расказвае ён — такі сіні быў, закрываўлены, я думаў, што нежывы. Але калі я пачуў дыханне, паклікаў яшчэ знаёмых, якія якраз там апынуліся і учатырох вынеслі мы яго на шашу, прыкрылі пледам з шафёркі. Толькі тады пад'ехалі на такой невялічкай машыне пажарнікі з ножніцамі для металу. Пачалі яны пытацца, што ў цыстэрне. Тады загаварыў шафёр. Потым ужо пачалі з'язджацца хуткая дапамога, паліцыя і пажарнікі. Запынілі рух і загарадзілі месца. Далей я не ведаю, што там адбывалася. Сёння ездзіў я ў Бельск, то яшчэ праз Ягуштова.

Раённы камендант пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім Ян Барташук кажа, што вялікай небяспекі не было:

— Прынамсі вёсцы нічога не пагражала. Нават, калі б газ разліўся, мы яго лакалізавалі б і нейтралізавалі. Прапан-бутан не мае таксічных уласцівасцей, а ўзрыўныя. У месцы вялікага згушчэння можа выбухнуць. Мы ўвесь час, аднак, там былі.

**Мікола Ваўранюк**

# Клопаты з тэлебачаннем

Апошнім часам, дзякуючы прысутнасці беларусаў на Беласточчыне, беластоцкія журналісты мелі аб чым пісаць і пры нагодзе падзарабіць на ганарарах. Хаця тэма „беларусы" ці „нацыянальныя меншасці" не надта цікавіць тутэйшых палякаў, а нават іх раздражняе, аднак для палітыкаў, асабліва некалькі месяцаў перад выбарамі, кожны фактар, які можна выкарыстаць, каб звярнуць на сябе ўвагу, мае сваю цану. Такім фактарам, несумненна, з'яўляецца арганізацыя Беластоцкага асяродка Польскага тэлебачання. Пануе глыбокае перакананне, што тэлебачанне мае вялікі ўплыў на вынікі выбараў і таму нават найменшая рыбка ў палітычным басейне імкнецца паказаць там сваю фігурку. Электарат беларускага паходжання гэта прыблізна сто тысяч галасоў. Кожны палітык хацеў бы да гэтай масы час ад часу моргнуць вокам з тэлевізійнага экрана, а калі не, тады прынамсі дабіцца таго, каб не рабіла гэтага канкурэнцыя. Адтуль, як мне здаецца, узнялася завіруха вакол тэлеперадач на беларускай мове.

Эмісія перадач для беларускай меншасці ў Беластоцкім асяродку тэлебачання планавалася ўжо даволі даўно. Гэты аргумент быў, здаецца, вельмі важным падчас размоваў наконт месца лакалізацыі новага тэлецэнтра. Разглядаліся прапановы Ольштына, Сувалкаў і Беластока. Справа прысутнасці на Беласточчыне нацыянальных меншасцей была вырашальнай у карысць нашага горада.

З другога боку прадстаўнікі Беларускага саюза, а асабліва Яўген Вапа і Юры Каліна, не чакаючы „манны нябеснай", самі пачалі дапамагаць свайму лёсу, г.зн. лёсу беларускіх перадач у тэлебачанні. Ад двух гадоў стукалі яны ў дзверы ўсялякіх прэзэсаў і дырэктараў Польскага тэлебачання. А ўсялякія ўлады там даволі часта мяняліся, што не спрыяла пасяховаму вырашэнню справы беларускіх перадач. Калі прадстаўнікі Беларускага саюза пераканалі Веслава Валендзяка ці Томаша Сямоняка ў неабходнасці стварэння беларускай тэлевізійнай рэдакцыі, раптам гэта аказалася фактам без значэння. Прыйшлі новыя людзі, якім ад пачатку трэба было ўсё тлумачыць і пісаць дзесяткі ўсялякіх пісьмаў. Члены аб'яднаных у Беларускім саюзе арганізацый сабралі таксама дзесяць тысяч подпісаў ад жыхароў Беласточчыны ў падтрымку ідэі стварэння рэдакцыі беларускіх перадач у беластоцкім тэлебачанні. У тым часе 5 журналістаў прайшлі практыку ў розных асяродках TV — у Кракаве, Быдгашчы, Варшаве.

Год таму паказаліся першыя тэлеперадачы на беларускай мове, рэалізаваныя беларускімі журналістамі. Гледачам наогул яны спадабаліся, але згодна з нашай тутэйшай традыцыяй чыйсьці поспех выклікае хвалю недарэчных каментарыяў з боку лідэраў канкурэнтных арганізацый. Зараз жа прагучалі словы пра тэндэнцыйнасць, што быццам бы „audycje reprezentują tylko jedną opcję polityczną", хаця якой-небудзь палітыкі цяжка было б там дашукацца. Для аднаго дзядзькі не падабаўся мастацкі ўзровень, іншаму адсутнасць у нейкай перадачы шасцідзесяцігадовай прыгажуні, якая ачаравала старых кавалераў у гміне падчас народнага фэсту. Гэтых апошніх можна аднак зразумець, таму што іх заўвагі былі адлюстраваннем своеасаблівага ўспрымання імі акружаючага свету, на што кожны мае права.

Сапраўдны фарс пачаўся, калі дырэктарам Беластоцкага асяродка TV быў назначаны Казімеж Пуцілоўскі. Зараз на пачатку паінфармаваў ён журналістаў мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, што перадачы для нацыянальных меншасцей лічыць непатрэбнымі. У выніку пратэстаў старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы, перададзеных шэфу Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання Балеславу Суліку, Пуцілоўскі пачаў тлумачыць, што журналісты дрэнна яго зразумелі і яны вінаватыя ўсяму закалоту.

На пачатку гэтага года, калі прыйшоў час прымаць канчатковыя вырашэнні ў справе арганізацыйнай структуры Беластоцкага асяродка TV, аказалася, што беларусы атрымаюць столькі ж сама эфірнага часу што ўкраінцы, літоўцы, рускія, немцы, татары, якіх быццам бы тут столькі сама пражывае, што і беларусаў („Gazeta w Białymstoku", nr 22). Прытым ніхто ўжо не ўспамінае пра тэлеперадачы для беларусаў на беларускай мове, а намеснік Пуцілоўскага, Войцех Варатынскі, пачаў гаварыць пра нейкае „kresowe okienko". З дапамогай уладам традыцыйна рушылі нашы знакамітыя дзеячы, якія свае геніяльныя думкі ахвотна выказалі на старонках польскай прэсы. Паінфармавалі яны чытачоў — як „беларускія" дзеячы — што „przyjęty przez kierownictwo TVB kurs jest słuszny" і, што „język białoruski jest nienajważniejszy" („Kurier Podlaski", nr 19).

Вядома, як цяжка было стварыць беларускае школьніцтва ў пасляваенны перыяд і як лёгка было яго знішчыць у сямідзесятыя гады. Тады таксама нашы дзеячы, аргументуючы, што беларуская мова ёсць менш важная чым пабудова камунізму, дамагаліся спынення яе навучання. Сёння быццам бы „istnieje zagrożenie, że będziemy sobie sami, wśród swoich mówić o problemach. (...) O obiektywizm jest wtedy trudniej", — гаворыць адзін з нашых палітыкаў і адначасова старшыня найстарэйшай беларускай арганізацыі ў Польшчы („Kurier Poranny", nr 27).

Хаця як бы нічога новага не дзеецца, што невядомае было б у гісторыі нашага грамадства, аднак неяк сумна робіцца, калі нараджэнню чаго-небудзь беларускага заўсёды мусіць спадарожнічаць фестываль інтрыг, бескарыснай злоснасці, крывадушнасці. А беларуская мова ў польскім тэлебачанні гэта шанц, каб зняць некалькі псіхалагічных бар'ераў, якія так моцна паралізуюць штодзённае мышленне як тутэйшых беларусаў, так і палякаў.

**Яўген Мірановіч**

Алесь Залескі

# Дзве Беларусі

Хтосьці гаворыць ёсць  
дзве Беларусі  
Бел-чырвона-белая і зялёна-бурая.  
Але ў нас хлеб-соль кладуць  
на адным абрусе  
І ўвесну буслоў чакаюць  
не з юга, а з выраю.

У радасці і смутку сваёй мовай  
гаворым  
І спрадвеку на сваёй зямлі  
мы жывём.  
Калі вораг нас гоніць нават  
і за мора  
Жменьку роднай зямелькі  
ў выгнанне бяром.

Праўда, што сёння загараецца  
мала  
У купальскую ноч святочных  
агнёў.  
Але будзе прыбываць з кожным  
Купалам  
Тых, хто не цураецца сваіх каранёў.

Сёння неба над Радзімай  
чорныя хмары  
І камусьці — імгла ля зрэнак варот.  
Хай імглу рассеюць аб будучым  
мары  
І надзея — будзе бы вясны зварот.

Цяжкасці, сумненні падуць  
поту кроплямі  
І растопяць лёд — зацурчыць вада.  
А спытае хто: „Што беларусы  
зрабілі?"  
„Былі Беларусі дзве, — адкажам, —  
а цяпер адна".

# Незагоеная рана

[1 ☞ працяг]
вокны і ўбачыла пажарышча. Маці паслала яе на гарышча ўзяць з куфра адзенне. Дзяўчынка глянула ўваконца і там пабачыла забітага на вуліцы чалавека. Пад дрэвам сядзела расстраляная дзяўчына.

— Мама ўзялі ікону Маткі Боскай Гадышэўскай, грамнічную свечку і вывелі нас, трое дзяцей з хаты. Зараз падбег да яе асобень з вінтоўкай і паставіў сваё пытанне: „Polaki czy Białorusy?"

— Polaki, panie, Polaki! — паказвала на ікону маці Марысі. — Zapyta się pan Franciszkowej, sąsiadki, — прасілася з надзеяй маці.

Згаданая суседка глянула са злоснай усмешкай на нас і паясніла сітуацыю.

— Polaki, Polaki, — сказала яна іранічна.

Маці Марысі зразу жа расстралялі. Дзяўчынка дастала таксама рэвальверам у галаву.

— Пазней нас з малодшай сястрой у падпаленую хату загналі. Ад страху пад ложкам мы сядзелі.

Калі хата занялася агнём, дзяўчаты выбеглі на панадворак. Хвіліну пазней схаваліся пад дубам, што ляжаў на вуліцы.

— У нас добрыя суседзі, католікі, былі. Я іх як родную сям'ю лічыла. Таму рашылася ў іх шукаць ратунку.

Там аднак Марысю сустрэў непрыветлівы жэст гаспадыні. „A ty, draniu, wynoś się!" — выпіхнула дзяўчыну суседка.

Уладзімір Д., брат Марысі, запамятаў вачыма дзіцяці гэты дзень. Было яму толькі 11 гадоў. Разам з маці і сёстрамі выбег на вуліцу шукаць ратунку. У час страляніны ірвануў за хату і, прыкідаючыся мёртвым, застыў у баразне. Калі загарэлася хата, палыхаючая салома падала са страхі на хлопчыка. Было невыносна горача. З гэтай баразны малы Уладзік бачыў, як расстралялі яго маці з Маткай Боскай Гадышэўскай у руках.

* * *

Пасля вайны Зані былі мнагалюднай вёскай. На дзвесце сем'яў толькі чатыры былі каталіцкія. Аднак навакольле належыла ўжо „шляхце".

— Нас хацелі прагнаць і забраць сабе зямлю, — кажуць сведкі таго часу.

*Месца пахавання 24-ох жыхароў Заняў.*

Зані, адзіная праваслаўная вёска ў наваколлі, шмат злачынстваў зведала ў пасляваенныя гады.

— Банды дзень у дзень хадзілі. Рабавалі ўвесь дабытак ды пасылалі *кацапаў у рай*. Аж паўсотні людзей выехала тады ў Савецкі Саюз.

Сёняшнія Зані гэта прыстанішча старых людзей. Толькі ў адной сям'і, да таго прыезджай, ёсць 13 дзяцей.

— Нашы ўсе адсюль павыязджалі. Ужо пасля 1946 года людзі пабралі астаткі дабра і накіраваліся ў напрамку Бельска-Падляшскага.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

P. S. Па жаданню выступаючых асоб прозвішчы і імёны зменены. Аўтарка карысталася архіўнымі магнітафоннымі запісамі Юркі Ляшчынскага.

# Архіпелаг Канцлаг

[1 ☞ працяг]

Мяне ў Міхалове трымалі два дні ў арыштце. Маці прынесла мне ежу, і я яе прасіў, каб ішла ў Гарадок да бацюшкі Віхрова. Ён да вайны быў у Юшкавым Грудзе настаяцелем. Маці мая спявала ў царкоўным хоры, а бацька быў старастам і прымушаў мяне быць прыслужнікам. Я вельмі не хацеў служыць, бо калі хлопцы сабе гулялі, мне трэба было быць у царкве. Але схопіць бацька за валаскі, што на скроні — баліць, і мус! Схадзіла маці ў Гарадок, а бацюшка Віхроў, які быў там і настаяцелем, і войтам, сказаў: „Добра, паеду ў Беласток, у гестапа, каб выратаваць яго ад смерці". На другі дзень зноў маці да яго пайшла, каб даведацца. Ад смерці выратаваў, але выпусціць немагчыма, адказаў ён. Пасля вайны энкавэдзісты падхапілі Віхрова так, што ніхто не бачыў і не ведаў, што з ім сталася.

Мяне перавезлі ў беластоцкае гестапа на допыты. Дапытваў следчы Сойка — надта ён у гестапаўцаў стараўся і яго застрэлілі падпольшчыкі. Ён сказаў, што я — бандыт, з партызанамі супрацоўнічаю, і гестапаўцы на мяне з дубінкамі лупцаваць кінуліся, каб прызнаўся. А я маўчу, бо што скажаш: калі тыя партызаны і прыходзілі, дык калі ім чаго не дасі, дык самі возьмуць. Два месяцы доўжылася тое следства, пасля перавялі мяне на працу ў сталярню. Калі сабралі нас дастатковую колькасць, адправілі ў Майданак. Раней у Майданак не высылалі, толькі расстрэльвалі на месцы.

У Майданак ехалі поездам, 50 чалавек у вагоне. Праехалі хутка, есці далі на дарогу ў Беластоку і адразу ў Любліне. У Майданку капалі равы пад электракабель; гаварылі таксама, што і для жыдоў. Трупы пасля адкопвалі і ў крэматорыю. Труцілі таксама: каробачку з газам цераз комін укідалі, пасля адкрывалі дзверы, і ў крэматорыю.

Раз раніцай пазвалі мяне: „Komm!" І яшчэ аднаго маладога. У лазню вядуць. Выкупаюць і да працы, думаем; і цешымся. А там загадалі нам распранўцца. Стрыгуць на галаве, а пасля ў прамежку. І вядуць далей. Той другі кажа мне: не дамся на эксперыменты. А я маўчу — ідзе з намі *капо*, асоба ненадзейная. Звяжуць, і што? Прывялі да двух лекараў — адзін жыд, другі паляк. Бачу, што рыхтуюць уколы. Жыд мне на правы семяннік укол зрабіў. А той другі, што са мною быў, круціцца пачаў. Дык немец на яго ўскочыў. А жыд мне з левага боку тады толькі эпідэрму прабіў. Немец кажа яму: калі б гэта паляк зрабіў, забіў бы, але ты жыд, а жыдоў і так за два тыдні выб'ем. І праз пару дзён правы мой семяннік спух; а левы не, бо толькі скура была там пацарапана. Той лекар, жыд кажа мне: калі пражывеш канцлагер, будзеш мець дзяцей. А таму другому кажа: а з цябе ўжо вол. І неўзабаве той другі павесіўся на сваіх кальсонах. А са мною так выйшла, як той жыд сказаў, толькі правы семяннік засох, як гарошына зрабіўся.

А пасля „шпіталя" зноў да работы. Працаваў я ў буфеце СС. З другім хлопцам, варшавякам, рыхтаваліся да ўцёкаў. Выпаў, аднак, снег і цэлы месяц не было мяцеліцы, якая б магла сляды засыпаць. Падчас аднае праверкі знайшлі ў маёй світцы „гураля" — 500 польскіх злотаў. Былі пры гэтым дзве дзяўчыны: Марыся з Міхалова і Оля з Заблудава. Той немец, што грошы знайшоў, нікому пра гэта не сказаў. А вось Марыся сказала загадчыку буфета. Узялі мяне на допыты. Я гавару, што гэта не мая світка, але ж світкі такія давалі толькі тым, што пры немцах працавалі, бо цяплейшыя. Ну і прыгаварылі мяне на 50 дубінак. Да 25-ці ўстаяў на нагах. І крычаць няма як, бо калі крычыш, сабака за нагу хапае; не кусае, толькі цісне зубамі. Апомніўся я на калідоры. Галава ў крыві. „Aufstehen!" — крычаць. А я прытвараюся, што не магу, носам толькі ў кроў, каб вымазацца. Прывялі чатырох „пасякаў", занеслі яны мяне ў шпіталь, але там не прынялі, дык у папраўчы барак; там порцыя ўдвая меншая — „выканчальня"... А ў мяне не толькі галава, але і шыя чорная. Знаёмыя хлопцы ратавалі мяне, па крышцы хлеба пакідалі. Нацёр я пад рукою, быццам гарачка ў мяне, і так усё-ткі папаў у шпіталь. І я ў тым шпіталі каля двух месяцаў пратрымаўся. Пасля немец заўважыў мяне і да лекара: „А гэты што тут робіць?" — „А ён ужо выздаравеў і заўтра да працы",— адказаў лекар. Далі мне фурай бочкі вазіць, дэзінфекцыю ў „лятрынах" праводзіць.

Мо з тыдзень працаваў я пры той дэзінфекцыі, і адправілі мяне ў Нацвайлер, у Францыі, у Эльзасе, там фабрыка пад зямлёю была. Стаіш на гары, а ўнізе хмары і рака Рэйн. Спалі як сабакі, пад збітымі дошкамі. У міжгор'і спякота ў сонцы; калі прыходзілася ў дзень спаць, цяжка было вытрымаць. Працаваў я там столярам: перагарадзілі тунель дошкамі, вентыляцыю рабіць, бо вада пад фабрыку падходзіла.

Стаў я раз каля выхаду, бо выходзіць з тунеля нельга было, каб крыху свежага паветра ўлавіць. Прыкмеціў мяне адзін, і мяшок цэменту мне на плечы ўзваліў. А я, слабы быў, і ўпаў. Завялі мяне ў маё каманда, а там аднаго не хапае. І *капо* мяне дубінкай. Я адхіліўся, а ён мне канцом дубінкі кусок брыва вырваў. Але адрасло, хаця след яшчэ і цяпер відаць.

Перад наступаючымі амерыканцамі вывезлі нас у Бухенвальд, у каманда Дора, на работу. Там выбіралі на шыбеніцы. Штовечар 40 вяровак і 40 людзей. Спярша інтэлігенцыю, паводле дакументаў, пасля глядзелі толькі на рукі, а наканец — кожнага дзесятага: „Zehn!" і *выхадзі*. Сем комінаў там было, адзін для ксяндзоў.

У Эльрых капцаваў бульбу. І адтуль пачалі нас вывозіць. Першы транспарт атрымаў па буханцы хлеба і кавалку маргарыну на дваіх. Ад'ехаў першы поезд. Мяне пасадзілі ў другі; нам ужо нічога не далі. Хворых санітары ўкідалі ў возера. Ехалі пяць сутак. Тыдзень правялі ў Мітэльбаў.

У Берген-Бельзен камендант выдаваў пропускі, каб на вёску выйсці. Я таксама атрымаў той пропуск; ідзем ушасцярых. А ў варотах хіба венгры стаялі. Штосьці крычаць, я не разумею. Дык адзін з іх мне прыкладам у грудзі! Упаў. Сябры кінуліся ратаваць. Аддыхаўся. За той час змяніліся вартаўнікі. Мы зноў да выхаду; новы вартаўнік махнуў нам рукою і мы выйшлі. І ўжо не вярнуліся.

Адышлі з 15 кіламетраў, затрымаліся ў вёсцы і там нас бабы паразбіралі; на сенакосы. Мяне і яшчэ аднаго, з Жэдні ён, маладая немка ўзяла. Бацька яе на фронце загінуў, а дома асталася яна з малодшай сястрою і трыма брацікамі; найстарэйшаму 12 гадоў было. Аднойчы чытае яна газету, а там пра ліквідацыю лагера ў Эльрых было. „І ты там быў?" — паглядзела яна на мяне. Адзін паляк намаўляў мяне, каб я з тою немкай жаніўся; нябрыдкая яна была, і прасіла, каб аставаўся. А зноў другія гавораць: „А дома то што — сваіх дзяўчат няма; як памрэш, то і на магілу ніхто не прыйдзе".

Былі мы там тры тыдні. Мая гаспадыня дала мне на дарогу крыху марак. Прайшлі з дзесяць каламетраў, да Эльбы; цераз Эльбу немец лодкай перавёз, і яшчэ з восем кіламетраў да чыгункі ішлі. Днём ехалі ў вагонах, але нанач рускія выганялі. Дык мы на вагоны ўлазілі і так ехалі далей. Чыгуначнікі гаварылі, калі злазіць з вагонаў, каб за мост не зачапіцца. Пазней ужо нармальна ехалі. Праехаў у Валілы, а адтуль пяшком. У Ціванюках спаткаў знаёмага — быў перакананы, што я ўжо не вярнуся.

Бацькі прыказвалі: нічога на нікога не гавары. А што ж я буду гаварыць?..

* * *

Год пасля вяртання з ваенных вандровак па муках Глеб Саковіч ажаніўся. Нарадзіліся яму дзве дачкі і двух сыноў. Адзін з іх вядзе гаспадарку. Калі ішоў у войска, прасіў, каб бацька апісаў гаспадарку на яго. Але прыйшоў сусед і кажа: „Ты гаспадарку здай, атрымаеш рэнту. А сыну, калі вернецца з войска і схоча астацца, паможаш. Бо калі апішаш на яго, пасля можа зláваць, што на вёсцы пакінуў". Так я і зрабіў. А сын усё ж такі на зямлі астаўся, ажаніўся, а цяпер спецыялізуецца ў гадоўлі. Другі сын і дочкі ў Беластоку. Глебу Саковічу ідзе 77-мы год. Мае пасведчанне аб выніках злачынных эксперыментаў. Кампенсацыі за гэта не атрымаў, бо на дакументах Чырвонага крыжа не чырвоны, толькі чорны крыж. Трымае іх аднак, каб унукі ведалі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Апамятаюцца і прыедуць

Едзем мы з сынам на „Малюху" і маўчым. З царквы вяртаемся. Раптам падняўся шум, раздаліся гудкі сігналаў.

— Што гэта такое? — пытаю. — Можа канец свету?

— Які там канец, — з усмешкай гаворыць сын. — Не пытай, бацьку, толькі на абочыну з'яджай.

— А каго гэта чорт нясе? Што яму, дарогі мала?

— Татка! Гэта не чорт нясе. Пэўна, дзяржаўная персона едзе.

— Персона! Няхай і персона, — мармычу. — А што яна, паціху праехаць не можа? Пэўна, хоча каб яго ўся ваколіца пачула.

Аднак з'ехалі мы і затрымаліся. Аж тут праехалі матацыклісты, а за імі з пяць прыгожых заграніčных аўтамашын.

— Бачыш сынок, як персоны жывуць. Ім не грукатаць пятнаццацігадовымі машынамі. А нам і „Малюхам" не горш, не трэба сігналіць, — кажу з усмешкай. — І так чуваць, што едзем.

Калі праехала персона і мы адправіліся, кажу сыну:

— Добра яшчэ, што не кажуць выходзіць з машыны, шапку скідаць і пакланяцца. Хаця аднаго дачакаліся мужыкі, што іх не паніжаюць.

Дабраўшыся дахаты, даведаліся мы, хто гэта ехаў. Быў гэта наш прэм'ер, пан Уладзімеж Цімашэвіч. І вось перад вачыма стала ўсё, як бы ўчора гэта было, хаця ўжо амаль чатыры гады прайшло. Перад апошнімі выбарамі ў Сейм лявіца наладзіла ў нашым клубе сустрэчу кандыдатаў з выбаршчыкамі. Цяпер яны інакш сябе называюць. Калісь камуністы — гэта былі добрыя людзі, патрыёты, акаўцы — здраднікі, другія непартыйныя — абібокі. Цяпер лявіца, правіца, цэнтр і другія як захочуць так сябе і называюць. Вядома, дэмакратыя! Прыехала тады іх каля дзесяці асоб. А людзей шмат зышлося з усёй вёскі. Прыйшлі нават з Махнатага, Дубічаў-Асочных і з далёкага Мора. Сустрэў я старэнькага дзядулю і пытаю:

— І вы прыйшлі?

— А як жа.

— А ў царкве былі?

— Што ў царкве, — прамармытаў. — Там можна ў кожную нядзельку пабываць. А Цімашэвіч не часта прыязджае, сынок. А гэта свой чалавек.

— Добра, што свой, — кажу. — Калі яго выбярэм, ці ён нам чужым не стане? Ты толькі паслухай як яны гавораць, абяцаюць. Абяцаць абяцаюць. А што зробяць, дык убачым. Хто дачакае.

Дзядуля не дачакаў. Вечная памяць яму. А мы таксама нічога не ўбачылі, бо нічога лепшага мужыкам не зрабілі. Праўда, калі была сустрэча, сяляне пыталі, прасілі помачы. Адзін дзядзька сядзеў, маўчаў-маўчаў, дык пытае:

— А вы, пан Цімашэвіч, калі вас выбярэм, тады наведаеце нас?

— Абавязкова прыеду. Куды ехаць маю, як не да выбаршчыкаў сваіх!

Вось і цяпер праехаў. Шкада толькі, што каля нашай вёскі. Аднак, можа і добра, ён жа бедны (толькі не грашыма) і так мала спіць. Вы самі паглядзіце: гасцей трэба прымаць, за граніцу ездзіць, а калі канчаецца кадэнцыя, штораз часцей, бо можа больш не выбяруць. Ён, пэўна, бедненькі забыў, як яго дзеткі выглядаюць, не гаворачы аб жонцы. А што гаварыць аб мужыках, якія яшчэ і гноем пахнуць. Цьфу! Навошта на іх час траціць. Аднак паверце, даражэнькія, няхай толькі вясна надыдзе, дожджык абмые зямлю і мужыкоў і час выбараў прыблізіцца, тады і аб іх успомняць. Прыедуць і на вёску, знoўку будуць абяцаць, хваліць, запэўніваць. І ўсё пачнецца так, як неаднойчы ў нас бывала.

Абы да вясны!

**Грыша Мароз**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Ёлка ў Дубічах-Царкоўных

20 студзеня ў Гмінным асяродку культуры наша школа арганізавала навагоднюю ёлку. А дзевятай гадзіне ўсе сабраліся ў вялікай, прыгожа прыбранай зале, дзе іграла музыка. Адразу пачаліся танцы. Зышлося многа людзей: малыя дзеткі, школьнікі, бацькі, настаўнікі і вучні, якія скончылі ўжо школу.

Спачатку адбылася артыстычная частка, падрыхтаваная вучнямі школы. Першымі выступілі наймалодшыя вучні з нулявога класа. Яны прыгожа дэкламавалі вершы пра звяроў. Потым выступалі іншыя дзеці. Мы (вучні гуртка „Жывое слова") са сваёй стараны прыгатавалі дзве сцэнкі на беларускай мове: „Як я быў доктарам" і „Як Лепачка вылечыла Дзеда Мароза". Праспявалі мы таксама некалькі беларускіх песень з дапамогай гармоніка.

Потым прыйшоў доўгачаканы Дзед Мароз з падарункамі. Усе яго акружылі і чакалі. Задарма падарункаў ён не даваў; трэба было спяваць або сказаць верш.



*Калядныя дэкарацыі ў выкананні дзяўчат з бельскай тройкі.* Фота Аліны ВАЎРАНЮК

У нас ёлкі праводзяцца ў зале Дома культуры, дзе ёсць прасторна і заўсёды весела.

Мы ўсе чакаем зноў ёлкі на другі год.

**Вучні з гуртка „Жывое слова" з Дубіч-Царкоўных**

## Вершы Віктара Шведа

### Экзамен

Сынка спытаў дома тата:
— Скажы, як праходзіў экзамен?
Як чуўся экзаменатар,
Ці згода была паміж вамі?

Тату адказвае Ваня:
— Я пратрымаўся талкова.
У пякельным агні пытанняў
Не выціснуў ён з мяне слова.

### Трэба, Люба, шанаваць зубы

— Бачу, унучанька ізноў
Не мыла ты сваіх зубоў.
Яны павыпадаюць прама,
Ніхто не возьме цябе замуж.

— А ты, бабуля дарагая,
Зусім бяззубая такая,
А мілы дзедка Яраслаў
Цябе аднак калісьці ўзяў.

### Глухі як пень

— Чаму, скажы, не плачаш,—
Спыталі хлопцы Вацка,—
Калі за ўсе няўдачы
Лупцуе цябе бацька?

— Таму не лямантую,
Не верашчу заўзята,
І так ён не пачуе,
Глухі як пень мой тата.

# Солтыс чатырох вёсак

„Лес — гэта другая маці". Такі вывад атрымаўся пасля размовы з Андрэем Карпюком, солтысам вёскі Забагонне. Наведала я яго ў халодны, лістападаўскі дзень. Ягоны дом відаць ужо здалёк. Не дзіва, у вёсцы шэсць хатаў! Зачараваў мяне прыгожы лес, што цягнецца ля дарогі. Андрэй Карпюк, як і ўсе жыхары Забагоння — земляроб. Калі быў дзіцём, цікавіўся гэтай прафесіяй.

— Быць солтысам — не так проста, як сказаць, — даведалася я ад яго.

Сам ён калісьці не спадзяваўся, што будзе выконваць такую функцыю. Яму падлягаюць чатыры вёскі: Доўгі Брод, Забагонне, Якубова і Пяскі.

— Не штука называцца солтысам, — адзначае Андрэй, — штука сапраўды ім быць. Чалавека пахваляць тады, калі штосьці карыснае зробіць для сваіх людзей.

Спадар Карпюк „пачынае" працу, а ўжо нешта стараецца рабіць. Сам ён закончыў сярэднюю школу ў Гайнаўцы.

Сустрэча з солтысам выклікала ў мяне вялікае ўражанне. Падабаецца мне гэты ўчынны чалавек. З належнай цікавасцю выслухала я ягоных апавяданняў аб працы і малых заробках, што ў сённяшні час ёсць вельмі важнай справай. Спадар Андрэй Карпюк не толькі ўсё, што я хацела ведаць, расказаў, але і запрасіў летам на грыбы і ягады, якіх многа ў прыдарожным лесе. Дзякуючы солтысу я ўсведаміла сабе, што кожная работа варта таго, каб яе добра выконваць і што яшчэ ёсць такія заняткі, якія прыносяць чалавеку радасць.

Калі не будзем шанаваць лесу і цаніць яго дараў, мы не заслугоўваем называцца людзьмі, — падумала я сабе, ідучы ў Старыну ляснымі дарогамі. Калі пісала пра гэту сустрэчу, доўга задумвалася, што сапраўды для мяне значыць лес з яго багаццем і чалавек са сваёй працай.

**Ірэна Кулік**
**Вуч. VIII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі")*



*Дэкламатары з Дубіч-Царкоўных з настаўніцай Ірэнай Наўроцкай (злева) і аўтаркай рэпартажу.*

**Так прадставіў казку „Брат-баран", якая друкавалася ў „Зорцы" № 48 за мінулы год, сямікласнік Янка з Чыжоў.**



# Бяроза

Хочаце ведаць, чаму бяроза зімой бялейшая за ўсе дрэвы? Тады паслухайце казку.

Даўным-даўно, калі не было на свеце не толькі вас, але і вашых дзядуляў і бабуляў, дрэвы ўмелі размаўляць, хадзіць і апранацца. Ім вельмі падабалася, калі Дзед Мароз прыхарошваў іх белымі махрамі. Ад гэтага ўсе прыходзілі ў захапленне і не ведалі, як аддзячыць добраму старому чараўніку.

Аднойчы, ходзячы па лесе, Дзед Мароз заўважыў адну красуню бярозку. Падышоў да яе і не ўстрымаўся, каб не пасватаць яе за свайго сына Інея.

— З дзяцінства я засталася сіраціною, — адказала бяроза. — Усе мяне крыўдзілі, ніхто не даваў мне праходу, усе смяяліся з мяне і называлі непрыгожаю. Зямля дала мне ўдосталь сваіх чароўных сокаў, і я выпрамілася, папрыгажэла. І калі я спадабаюся вашаму сыну, то выйду за яго замуж. Крыўдзіцелі яшчэ не перавяліся, а ўдваіх лягчэй здзекі пераносіць. Ваш сын, напэўна, такі ж добры, як і вы самі. Праўда, Дзед Мароз?

— Зразумела ж, добры. Ён любіць цябе будзе, бо ты такая прыгожая, сціплая. Душа ў цябе залатая. Нябось, і мастачка ты адмысловая? Можаш сабе вясельны ўбор саткаць ці пашыць?

— Магу, Дзед Мароз, ды нітак няма з чаго спрасці.

— Добра. Трымай сваю сукенку!

Узмахнуў Мароз сваім крыштальным посахам, і на бярозе апынуўся дзівосны ўбор. А сам сеў у сані, узмахнуў пугаю і паехаў. Здалёк толькі выкрыкнуў:

— Чакай!

Бяроза пачала чакаць. Кожнаму яна была відна здалёк, так выдзяляўся сярод іншых дрэў яе незвычайны ўбор. А жаніх не з'яўляўся, і дрэвы сталі пасмейвацца над ёю:

— Бач, як прыбралася! — казалі асіны.

— Ух, якая гордая, быццам кій праглынула! — шапталіся кусты воўчых ягад.

Адна толькі рабіна ды дуб суцяшалі бярозку:

— Не плач, не слухай балбатуноў. Вось хутка выйдзеш замуж, і яны перастануць кпіць.

Тым часам Іней збіраўся ў дарогу. Каб хутчэй дабрацца да нявесты, Дзед Мароз даў яму сваіх коней і наказаў спяшацца.

Доўга ехаў Іней. Ужо і вясна пачалася, стаў ён паціху раставаць. Але вырашыў, што б там ні сталася, спаткацца з нявестаю. Ды не паспела бярозка яго ўбачыць: моцна засвяціла сонца, а Іней узяў ды і растаў.

Заплакала, загаварыла бярозка. Але аднекуль з-пад зямлі пачула голас: „Не плач! Наступнай зімою мы абавязкова сустрэнемся..."

З той пары з самага пачатку зімы бярозка апранала свой бялюткі ўбор і чакала Інея. І ён прыходзіў, яшчэ больш бяліў і серабрыў яе гнуткія галінкі, стараючыся зберагчы іх ад халоднага ветру.

Дрэвы перасталі смяяцца з бярозы. Усе толькі захапляліся ёю. А потым сталі параўноўваць усіх нявест з прыгажуняй бярозкай.

**Вольга ШЭШКА**
*(са зборніка „Казкі дзяцей Беларусі")*

# Мая вёска Катоўка

Вёска Катоўка знаходзіцца непадалёк горада Гайнаўка. Назва мясцовасці ўзялася ад гаспадара, які трымаў катоў. У вёсцы каля сарака дамоў. Палова сялян займаецца гаспадаркай, апошнія — гэта пенсіянеры. У чатырох дамах ніхто ўжо не жыве.

У Катоўцы ёсць крама, але з 1992 года яна закрыта. Прыязджаюць да нас самаходы з таварамі па панядзелках, чацвяргах і суботах. Часам я езджу за пакупкамі ў Трывежу. Туды будзе каля двух кіламетраў.

Ад Катоўкі да шашы Гайнаўка—Беласток пяць кіламетраў.

Усе вучні з мае вёскі ходзяць у школу ў Новы Корнін. Дзяцей у вёсцы дваццаць двое.

Мая вёска невялікая, але прыгожая. Асабліва летам, калі вельмі многа зелені.

**Марцін МЯЛЕШКА, вуч. VII класа ПШ у Новым Корніне**

# Крыжаванка № 7

Упішыце правільна значэнні ўсіх слоў, каб атрымаць лозунг. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды. *(Крыжаванку злажыла Кася Леанюк з Гайнаўкі.)*

- агародніна
- цыркавая сцэна
- з яго свечкі
- веснавыя кветкі
- найвышэйшая гара ў Польшчы
- горад з Мар'яцкім касцёлам
- белы напітак
- марская млекакормячая жывёла
- праграма заняткаў
- малочны прадукт
- магазін з кніжкамі
- з яго боршч
- частка карткі
- вораг мышэй
- горад між Рабай і Дунайцам
- „рагатая" памылка

Адказ на крыжаванку н-р 3: век, сяброўка, міф, кус, мяч, зіма, сям'я, біч, торф, ваўкі, кум, краса.

Наборы каляровых аўтаручак выйгралі: **Славамір Калнаўс** і **Аня Пячынская** з ПШ у Кнарыдах, **Анэта Таранта** і **Андрэй Гальшэнка** з бельскай „тройкі", **Ева Гіншт** і **Наталька Тэслюк** з Гайнаўкі, **Паўліна Савіцкая** і **Эдыта Лісоўская** з ПШ у Гарадку, **Ежы Тамчук** з ПШ у Орлі і **Ева Ярмоцік** з ПШ у Дубінах.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.



*Дзеці з Гарадка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК





Талон „Зоркі" № 7
16.02.1997

# Каб было больш сэрца

**Бываючы на калядных канцэртах у Беластоку і Гайнаўцы, маю ўвагу прыкавалі маленькія выканаўцы з беластоцкіх прадшколляў н-р 27 і 45, якія выступалі пад кіраўніцтвам матушкі Міраславы Ціханюк з Сафійскай царквы ў Беластоку; матушка працуе выхавацелькай у Прадшколлі н-р 27, што побач „Domusa". Маё здзіўленне выклікала яшчэ і тое, што хутчэй спадзяваўся я там дзяцей з Прадшколля н-р 14 — з беларускімі класамі. А тут мне — сюрпрыз! Паехаў я на Выгоду да спадарыні Ціханюк, высвятліць сітуацыю.**

— Як дайшло да гэтай пастаноўкі? — ад гэтага пытання рашыў я пачаць размову.

— Я калісь сама выступала: і ў хоры Васі Дубца, і ў хоры БГКТ. Калі стала матушкай, усё гэта скончылася. Аднак была думка, каб нешта рабіць. Я працую выхавацелькай у прадшколлі і ўжо ад трох гадоў карціла мяне ідэя прыцягнуць дзеткі да роднага. І вось у гэтым годзе паявіліся дзеля гэтага спрыяльныя абставіны. У сваім прадшколлі я ўжо мела дзяцей, якіх вяла ад трох гадоў, напр. дачка Сашы Лысынкевіча, сын Анатоля Данілюка і яшчэ другія дзеці знаёмых харыстаў. У артыстычным плане была гэта здольная групка. Маці аднаго з дзяцей, мая сяброўка Ася Юравец падбадзёрыла мяне і... У маёй прадшкольнай групе мала дзяцей, толькі шасцёра. І я папрасіла Аню Фіёнік, каб і яна падапечных сабе дзетак паведаміла пра маю ініцыятыву. Я спадзявалася, што прыйдзе мо таксама каля шасці, а аказалася, што там урокі праваслаўнай рэлігіі наведвае аж шаснаццаць дзяцей. Сустрэчу, пры падтрымцы настаяцеля Анатоля Конаха, сарганізавала я ў нашай парафіі. Калі я пабачыла, колькі з'явілася ахвотных, а прыйшлі ўсе, ахапіў мяне спалох, бо часу аставалася мала ды і праца ў такой вялікай групе малых дзетак вельмі складаная, бо дзеці не знаюць мовы, не ўмеюць чытаць, трэба ўсяму вучыць на памяць. Пазапісвала я ім праграму на касеты і раздала; спярша я тую праграму сама апрацавала — у форме інсцэніроўкі, бо такую форму працы я люблю і найлепш у ёй сябе адчуваю. Спачатку развучвалі ў паасобных прадшколлях: ездзіла я то ў адно, то ў другое, а калі ўжо выспеў момант сумесных рэпетыцый, правodзілі мы іх у будынку БГКТ, бо там і сцэна, і зала вялікая, і ў цэнтры горада. Прынялі нас там з радасцю і мы сустракаліся штотыдзень, а бывала, што нават двойчы ў тыдзень. Ад Ані пазычыла я ўборы, крыху сваіх узяла. Была думка, каб з беларускага прадшколля, бо чула, што яны маюць, ужо нават была выбіралася туды — гэта ж побач, але асталіся пры сваіх. І вось, калі гэтая наша праца пачала даваць першыя поспехі, бацькі хочуць, каб прадаўжаць далей. Думаю, што мо яшчэ выступім у конкурсе беларускай песні для дзяцей.



— І гэтыя дзеці — усе, што ў прадшколлі праваслаўныя?

— Не; толькі шасцігодкі.

— А як Вы так зышліся з Аннай Фіёнік?

— 45-е прадшколле, у якім Аня працуе, у межах нашага прыхода, і я з ёю дагаварылася, так сказаць, прыватна. Я спачатку думала, каб усіх ахвотных дзяцей з парафіі сабраць, у царкве аб'явіць, аднак крыху гэтага пабойвалася. Я „сваіх" дзяцей знаю, іх магло б быць нават і сто, і я з імі справілася б. Але не знаючы дзяцей, іх характараў, тэмпераментаў, ведаў, цяжка прадбачыць, што атрымалася б.

— Як дайшло да вашага выступлення ў Філармоніі?

— На аглядах паяўляюцца што якісь час новыя выканаўцы. Вось і я спытала арганізатара — Васю Дубца, свайго кума, ці магчыма, каб паказаліся дзеці, і ён ахвотна маю ініцыятыву адобрыў.

— Вы спецыяльна рыхтаваліся да гэтага выступлення?

— Калядкі мы развучылі раней, на ўроках рэлігіі. А ўсё апошняе — пад канцэрт.

— Адкуль Вы ўзялі тэкст пастаноўкі?

— З галавы, сама прыдумала. Некалькі начэй не спала, пакуль распрацавала ідэю і пераклала яе на канкрэтны змест. Дзеці ў дашкольным узросце не спяваюць чыста — сам спеў не даў бы добрага ўражання. Найбольш адпаведная ў гэтай сітуацыі менавіта інсцэніроўка, дзе і крыху праспяваюць, і крыху скажуць. Для спеву ўзяла я калядкі і да іх дадала прывітанні калядніkаў, калі тыя прыходзяць пад хату. Апошняе то мне муж падказаў, бо я ўжо гэтай традыцыі добра не знала, выхавалася я ў Беластоку. Яшчэ велікоднае валоканне крыху помню, але калядавання ўжо не.

— А продкі Вашы адкуль?

— Мае бацькі з Гаркавіч і Суковіч. Вымерлі вёскі; аж сэрца крывавіць, калі туды заехаць і глянуць.

Цешыць мяне не толькі тое, што дзеці засвоілі, але і тое, што і бацькі змяніліся і разумеюць, для чаго ўсё гэта робіцца. Вось, напрыклад, адна маці з майго прадшколля спачатку хісталася, ці пасылаць дзіця на рэлігію, цяпер — задаволеная. Бо ідзе тут і пра тое, каб было больш сэрца ў хаце. Дзякуючы менавіта традыцыі, рэлігіі, можна многа скарыстаць. І трэба заўсёды пачынаць вось ад такіх маленькіх, каб яны ўбіралі ў сябе сваю культуру, каб не было духовага разрыву з імі. Я сама выхоўвалася без цеснага кантакту са сваёй традыцыяй, моваЙ. Калі я спявала, я часта нават не разумела зместу; адчувала толькі радасць самога спеву. Але калі я пабачыла: тут нехта праслязіўся, там нехта — тады я і зразумела: вось у чым справа!

**Аляксандр Вярбіцкі**
*Фота аўтара*

# Малыя акцёры ў Нарве

VIII Сустрэчы „Зоркі" праходзілі ў днях 3—8 лютага. Зорачка (Ганна Кандрацюк) са сваімі выхаванцамі з пачатковых школ Беласточчыны цэнтрам для заняткаў выбралі гэтым разам гасцініцу „Пад акацыяй" у Нарве. Умовы для дзетак там вельмі добрыя — чыста, цёпла і культурна.

Вядучай тэмай гэтага выпуску Сустрэч з'яўляецца дасканаленне тэатральнай здольнасці ў дзяцей. Заняткі прыцягнулі агулам 50 малых удзельнікаў, якія ўфармавалі тры групы паводле ўзросту. Групамі апекаваліся: **Ян Мордань** (наймалодшай), **Тамара Саевіч** і **Валянціна Бабулевіч** (сярэдняй) ды **Аліна Ваўранюк** (найстарэйшымі вучнямі). Яшчэ асобную групу склалі малыя мастакі пад кіраўніцтвам **Алега Кабзара** — іхняя задача ў афармленні сцэны для пастановак.

Вялікі поспех шостага выпуску Сустрэч „Зоркі", на якім дзеткі вучыліся пісаць рэпартажы ды журналісцкія паведамленні (пасля адбыўся конкурс) несумненна паспрыяў вялікай зацікаўленасці ў дзяцей пісаным словам, бо і на гэты раз працавала адна публіцыстычная група (апякун: Зорачка). Такім жа чынам, выпадае тут адзначыць, Сустрэчы „Зоркі" выпрацавалі механізм самадакументацыі.

У момант, калі пісалася гэтае паведамленне, не быў вядомы тэатральны рэпертуар, які меў быць распрацаваны ўдзельнікамі VIII Сустрэч „Зоркі". Гаварылася аднак паміж імі, нібыта адной з тэм мае быць выяўленне малымі акцёрамі абавязваючых на Беласточчыне схем беларускай культуры. **(ам)**

# На сцэне „Васілёчкі"

У нядзелю 2 лютага ў Бельскім доме культуры прайшоў канцэрт аднаго са старэйшых беларускіх калектываў Беласточчыны — хору „Васілёчкі". Узнік ён у 1964 годзе пры Павятовым аддзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Бельску. Сярод яго заснавальнікаў былі такія дзеячы, як Васіль Антыпюк, Якуб Базылюк, Уладзімір Раеўскі, Мікалай Серадзінскі, Янка Шурбак. Першым дырыжорам стаў Аляксандр Лукашук, а пасля яго хорам кіравалі Юрка Шурбак, Сцяпан Копа, Міхась Артышэвіч і найдаўжэй, бо звыш дваццаці гадоў — Сяргей Лукашук. Ужо ў дзевяностыя гады з „Васілёчкамі" працавала Аліна Нігярэвіч, якую замяніў выпускнік Беларускага універсітэта культуры ў Менску Уладзімір Сахарчук.

За трыццаць тры гады мастацкай дзейнасці хор даў амаль семсот канцэртаў: на Беласточчыне, у Польшчы, на Беларусі. Павел Лемеш, які прыйшоў у „Васілёчкі" на самым пачатку пятнаццацігадовым юнаком, успамінае выезд у Быдгаскае ваяводства ў пачатку сямідзесятых гадоў:

— Усюды віталі нас як суседзяў з братняга СССР, але як сардэчна прымалі!

Еўдакіі Навакоўскай, якая таксама ўсе трыццаць тры гады ў хоры, запамяталіся турнэ па вёсках Беласточчыны — на грузавіках, вазах. Аднойчы па дарозе ў Дубяжын згубілі кола, але конь дацягнуў на трох.

Першыя рэпетыцыі „Васілёчкі" праводзілі ў ратушы. Цяпер працуюць пры Бельскім доме культуры і з'яўляюцца трывалым элементам музычнага краявіду Беласточчыны. Сваімі выступленнямі ўзбагачваюць фэсты БГКТ, узнагароджваюцца на аглядах беларускай песні.

У час апошняга канцэрта, які прайшоў у рамках Бельскіх артыстычных кліматаў, праспявалі яны і свае старыя песні, сярод якіх ёсць, можна сказаць, гімн хору — „Расцвіталі ў полі васілёчкі" Куліковіча-Шчаглова. І новыя, дынамічныя, з акапманементам рознага роду бразгатушак, драўляных званочкаў і іншых нескладаных, але цікавых народных інструментаў. Уладзімір Сахарчук хоча развіваць „Васілёчкі" ў напрамку калектыву песні і танца. Лічыць ён, што рух значна ажывіў бы сцэнічнае мастацтва і добра ўспрымаўся б публікай. Дзеля гэтага, аднак, патрэбныя новыя, маладыя члены калектыву. З гэтым, пакуль, цяжкавата.

**М. В.**

**Уладзімір Саўчук**

**Бяда**

Бяда
гэта хвароба дзіцячага ўспамінання
бо ніколі не бачыў грошай
а бацькаў зрок холадам цягнуў
як вострыя грэбень.

Бяда
гэта хвароба ўчарашняга віду
калі бачыў як сотні вошай
танцавалі на густым грэбені
без сораму
і холад пацягнуў за вушы
бо астрыглі на калена.

Бяда
яна крычала і крычыць
але каго абыходзіла калісьці
што табе не хапала грошай
што ў цябе сотні вошай
і няма каму ўспамагчы
але маліўся настойліва да Бога
і вера мая праваслаўная
шчыра кіравала душою
пакуль не знайшоў
простай дарогі.

* * *

Эх вы людзі мае дарагія
ахапіла вас гордасць
і зайздрасць другому
чакае цяжкае маўчанне
калі ўжо зойдзеце дадому.
Эх вы людзі мае дарагія
грошы галаву сушаць і боль
дайце другому прыгарнуць адвагі
няхай вырастае літаратурны кнігаед.
І што з таго — што сёння пішаш? —
і што з таго ты будзеш мець? —
так мяне пытаецца мілая мая
але гэтых слоў я не зразумеў
не разумеў і разумець не хачу
не грошы нам даюць адвагу
не ўсё што свеціць — залатое
душы сваёй я даў прысягу.

# Забыты юбілей

**Пяцьдзесят гадоў — роўнае паўвека, шмат часу. Дакладна столькі ж гадоў існуе і дзейнічае беларускі народны калектыў „Арляне" з Орлі. Аказваецца, пра залаты юбілей памятаюць толькі ветэраны калектыву. Парадаксальна маўчаць гмінныя ўлады, культурныя ўстановы і беларускія журналісты. У радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" арлянскія спевакі — рэдкія госці. Часам, не часцей чым раз у год, можна зімою пачуць у іх выкананні „Мяцеліцу".**

Пачаткі беларускага народнага калектыву ў Орлі, так як і ўвесь пасляваенны перыяд, былі складаныя. Пераадолець цяжкасці дапамагалі самаадданасць людзей, іх энтузіязм да адбудовы і працы, да распаўсюджвання беларускай культуры — свайго роднага фальклору, мясцовых песень. Заснавальнікам калектыву і яго кіраўніком да 1963 года быў Радзівон Агіевіч — псаломшчык мясцовай царквы ў 1929—1963 гадах. У калектыве праз усе гэтыя гады займалася звыш ста чалавек. Мяняліся таксама назвы калектыву, адпаведна інструментарыю, якім ён карыстаўся. Спачатку быў гэта Беларускі калектыў мандаліністаў-спевакоў, адзіны такога роду на Беласточчыне. а нават і ў Польшчы. Выступалі ў ім Аляксандр Кубаеўскі, Ільля Кубаеўскі, Віктар Назарэвіч, Мікалай Лопух, Ян Раманюк, Міхал Кулік, Янка Сівэк, Галіна Скоўран, Галіна Пішчатоўская, Марыя Карвацкая, Галена Куртышаў, Рыгор Качынскі, Мікалай Мураўскі, Аляксей Ляшэвіч, Мікалай Кубаеўскі, Іосіф Назарэвіч. Ян Война, Феадосій Аўдзіевіч, Ян Кубаеўскі, Ілья Агіевіч, Яраслаў Адзіевіч, Юрый Ёдла, Вера Леўчук. Пазней калектыў папоўнілі Вера Валкавыцкая, Марыя Адзіевіч, Марыя Мураўская, Галіна Кубаеўская, Сцепаніда Савіцкая, Марыя Лопух, Яўген Бала, Ян Стасюк, Уладзіслаў Кузьміч, Вольга Данелюк, Яўгенія Хаміцкая, Ія Агіевіч, Ліза Кароўкіна, Крысціна Кубаеўская, Ніна Шыманская, Тамара Русіновіч, Раіса Ляшэвіч, Марыя Стальмашук, Марыя Мінцэвіч, Пётр Кудэрскі, Марыя Кулік, Яўгенія Хмялеўская, Міхал Адзіевіч, Міраслаў Бала, Вольга Русачык, Надзея Раманюк, Ніна Гаўзэ і іншыя.

Арлянскі калектыў мандаліністаў-спевакоў карыстаўся вялікім прызнаннем і папулярнасцю. Выступалі яны на многіх мерапрыемствах агульнапольскага маштабу. Наймацней у памяці самадзейнікаў замацаваліся канцэрты на цэнтральных дажынках у Любліне (1949 і 1955 гг.) і Варшаве (1957 г.), Агульнапольскім злёце моладзі (1952 г.) і Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў (1955 г.) таксама ў Варшаве. Радавалі яны публіку ў Ломжы, Шчэціне і шмат якіх гарадах, мястэчках і вёсках краіны.

Кіравалі арлянскім калектывам згаданы ўжо Радзівон Агіевіч, а таксама Санеўскі, Міраслаў Кадзевіч, Рыгор Качынскі, Пётр Нявінскі, Іосіф Янушко, Аляксандр Валкавыцкі, Міраслаў Бужынскі. З 1990 года з калектывам сталі працаваць інструктары з Беларусі: Валеры Кручкоў з Гродна, Аляксандр Сасновіч з Мінска. Цяпер з самадзейнікамі займаецца Мікалай Фадзін з Гродна, які выступае ў тамашняй „Праліцы". А канферанс гадамі вядзе незаменная Таіса Кацэйка.

Арлянскія спевакоў запрашалі на розныя ўрачыстасці ў многія вёскі і мястэчкі Беласточчыны. Мастацкі ўзровень, майстэрства самадзейнікаў, відаць, падабаліся публіцы, калі на старонках „Нівы" ад 2 кастрычніка 1985 года рэдактар Вера Валкавыцкая напісала: „Арлянскі змешаны хор варта запрашаць на выступленні ў кожную вёску і кожны горад". І запрашалі „Арлян" усюды: то на адкрыццё святліцы, помніка, ці мемарыяльнай дошкі, то на вечарыны ў гонар дзяржаўных святаў, то на беларускія фэсты. Калектыў прымаў таксама ўдзел у конкурсах беларускай песні і мерапрыемствах у беластоцкім амфітэатры. У рэпертуары, апрача беларускіх, маюць „Арляне" таксама ўкраінскія і польскія песні.



*Беларускі народны калектыў мандаліністаў-спевакоў на канцэрце ў Ломжы 22 ліпеня 1955 года.*

У 70—80-х гадах дзейнасць беларускага народнага калектыву проста квітнела. Гмінны асяродак культуры атрымаў тады новае піяніна і цудоўнага інструктара-дырыжора Іосіфа Янушку. Быў гэта час, калі грамадства ўмела цешыцца і з вялікай радасцю сустракала народных мастакоў. Ездзілі тады арлянскія самадзейнікі па навакольных вёсках і мястэчках спачатку ў кузаве грузавіка, потым на закрытай прычэпе, якую цягнуў трактар.

Цяпер калектыў у асноўным складаюць пенсіянеры. Па натуральных прычынах зменшваецца колькасць спевакоў. Але да сённяшняга дня 50-гадовую традыцыю калектыву працягваюць Мікалай Мураўскі і Аляксандр Кубаеўскі — ветэраны-пачынальнікі, а таксама Марыя Адзіевіч, Марыя Хаміцкая, Яўгенія Данелюк, Ніна Шыманская, Яўгенія Хмялеўская і Ніна Гаўзэ.

Члены арлянскага хору з жалем гавораць аб тым, што іх юбілей замоўчваецца, што некаторыя асобы раздражняюцца, калі згадаць ім пра патрэбу ўшанавання самадзейнікаў. Адзін са спевакоў дайшоў нават да такога вываду: **Рабі, працуй, нават цэлае жыццё прысвяці беларускай культуры, аднак і так у канцы павернуцца да цябе спінай, у вочы не глянуць.**

У студзені г.г. наведаў я Гмінны асяродак культуры, загадчыца якога, Аліна Петручук, паведаміла мне наступнае:

— 18 студзеня ў ГОКу адбылася сустрэча членаў калектыву з інструктарам Мікалаем Фадзіным з Гродна. Паколькі жыве ён у Беларусі і часам на граніцы мае клопаты з прыездам у Польшчу, таму ў Орлі працуе ён не на поўную стаўку, а па працоўнаму пагадненню. Калектыў не праводзіў рэпетыцый ад лістапада мінулага года. Цяпер некаторыя члены калектыву сур'ёзна хварэюць, іншыя носяць жалобу і ў сувязі з гэтым „Арляне" не ўдзельнічалі ў Калядных сустрэчах і, хіба, упершыню не падрыхтаваліся да раённага агляду конкурсу „Беларуская песня". Ва Управе гміны пакуль што нічога не гаворыцца пра юбілей...

* * *

Сёння культура па вёсках не мае тае дынамікі як калісь. Для гмінных улад найважнейшая тэхнічная інфраструктура: дарогі, водаправоды, каналізацыя, а затым прыгожы будынак управы. Справы навукі і культуры адтэрміноўваюцца на бліжэй неакрэслены час. Чыноўнікі і радныя, відаць, не ўсведамляюць сабе, для каго ўсё гэта... Культуру, так як зямлю, трэба апрацоўваць, сеяць, вырошчваць, каб потым можна было сказаць, што сфармавалі мы ўражлівае, чулае пакаленне, якое разумее сваю нацыянальнасць, якое не будзе толькі спажыўцом культуры, але і яе стваральнікам.

**Міхал Мінцэвіч**



*Цяперашні састаў калектыву на канцэрце ў Гарадку.*

# Прафесія — аператар

9 студзеня г.г. гасцяваў у Гайнаўцы вядомы кінааператар Мікалай Нестаровіч. Перад абедам сустрэўся ён з моладдзю Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання, а вечарам — з жыхарамі горада. Другое спатканне адбылося ў Гайнаўскім доме культуры, а госця рэкамендаваў публіцы дырэктар гэтай установы Мікалай Бушко.

Мікалай Нестаровіч нарадзіўся ў Орлі. Вучыўся ў беларускіх ліцэях — спачатку ў Гайнаўцы, а потым у Бельску (па два гады ў кожным). Пасля заканчэння факультэта русістыкі ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Аполі паступіў у Вышэйшую фільмавую школу ў Лодзі. Першы ягоны рэпартаж не спадабаўся ўладам і не ўвайшоў на экраны, бо прадстаўляў сялян з сярпамі ў час жніва на Беласточчыне. Потым зняў ён многа фільмаў, якія ўзнагароджваліся на міжнародных фестывалях і конкурсах. Атрымаў таксама прэстыжную сяроД тэлевізійных творцаў прэмію „Prix Italia". Здымаў ён такія вядомыя фільмы як „Defilada", „Kresowa ballada", „Żertwa", „Polski podrzutek", „Prezydent", „Sołówki".

Праца аператара дае магчымасць падарожнічаць па ўсім свеце. Наш госць здымаў у В'етнаме, Камбоджы, Мексіцы, Тайландзе, на Антарктыдзе, у Афрыцы. Занятак кінааператара бывае таксама небяспечны. І хаця Мікалаю Нестаровічу смерць не раз заглядала ў вочы, аднак прафесійная цікавасць падштурхоўвае яго наведваць гарачыя кропкі ў розных кутках свету. Аднойчы арыштавала яго паліцыя ў сталіцы Нігерыі Лагасе. Ахоўнікаў правапарадку не цікавілі плёнкі, толькі асоба аператара. Ягоны калега, хаця не быў арыштаваны, не пакінуў сябра ў бядзе. Спачатку на пяць гадзін зачынілі іх у жалезнай клетцы, потым перавезлі ў турму. Толькі там камендант астрога высветліў памылку. У дакументах стаяла, што Мікалай Нестаровіч — camera-man (анг.: фотарэпарцёр), а малапісьменным паліцыянтам здалося, што ён — камерунец. Тады якраз Нігерыя ваявала з Камерунам. Справа закончылася неадкладным вызваленнем і перапрошваннем.

Іншым разам Мікалай Нестаровіч правёў два тыдні ў савецкай турме ў Новасібірску. А здарылася гэта ў 1968 годзе, калі хацеў ён здымаць гарадок навукоўцаў пад Новасібірскам. У цягніку стараўся ён паводзіць сабе як мясцовы рускі. Разам з ім у купэ ехала сімпатычная пара. На пероне ў Новасібірску падышлі яны да міліцыянтаў, паказалі на Нестаровіча і сказалі: „Этот". На ўчастку ставіліся да яго як да нямецкага шпіёна, адзываліся па-нямецку, а следчы ўдарыў яго па галаве і сказаў: „Расстрелять пиздорванца". Потым давалі яму чытаць польскую газету і загадвалі расказваць прачытанае. Лічылі, што размаўляе ён на ламаная чэшскай мове. Спадар Нестаровіч аб'явіў галадоўку. Пасля двух дзён хацеў яе спыніць, але на трэці дзень не далі есці ўвогуле. КДБ прымяняла ў адносінах да яго розныя прыёмы дзеля псіхічнай ломкі арыштанта. Мікалай Нестаровіч разлічваў на найгоршае, але пасля двух тыдняў шэф міліцыі звярнуўся да яго словам „товарищ" і паведаміў аб вызваленні. Далі нават грашовую кампенсацыю.

Апошнім часам Мікалай Нестаровіч здымаў у Бразіліі фільм аб аперацыях, якія робіць спірытыст, які лічыць, што ў яго цела ўступаюць душы вядомых хірургаў. Аперацыі такія адбываюцца ў гасцінічным пакоі, пры дапамозе нажа і без абязбольвання, а „доктар" Рыкарда перад гэтым упадае ў транс. У ходзе аперацыі на жывацё ён спяваў і гутарыў з пацыенткай. Падчас чарговай аперацыі „доктар" чысціў гнойную косць дрылем. На канец апераваў ён вока іншага аператара, сябра спадара Нестаровіча. Калі потым падаўся ён на перавязку да польскага хірурга, той сказаў, што зрабіць такія дробныя швы проста немагчыма. Падчас чатырох аперацый „доктар" Рыкарда выпіў паўтара літра віскі і не быў п'яны. Тлумачыў ён, што гэта не ён сам п'е, але душы семнаццаці лекараў-хірургаў, якія яму дапамагаюць рабіць аперацыі. Шарлатан гэта, ці цудатворац?

Пра іншыя кур'ёзныя здарэнні можна было даведацца з фільма Мікалая Нестаровіча, які нядаўна дэманстраваўся ў цыкле „Час на дакумент" па першай праграме Польскага тэлебачання.

**Славамір Кулік**

# Горкая вада

**Разахвочаны Зютак урэзаў: „Расцвіталі яблыні і грушы!". Коля тузануў яго за рукаў святочнага пінжака: „Сціхні! То ж варшавякі!.." Аднак пан з міністэрства пляснуў Зютка па плячы, аж хлопец угнуўся: „Śpiewaj pan po rusku!"**

Увечары ўсе паселі ля вогнішча. Зютак ізноў тоўкся каля гасцей: заўсёды трапіцца кропля якая гарэлкі, і то не найгоршай, і каўбаска на закуску. Зютку Мікалаюку

**жылося нудна**

адкуль кончыў сорак. Казаў, пайшла жытка на спад, з горачкі, і хоць павесся сёння, ці памры праз сорак гадоў, то „адна польза". Калі б дзіцё якое гадавалася ў хаце, то хоць бы ты сам прыгінаўся з цягам гадоў, то яно расло б, было б каму багацце якое збіраць. А тут усё валіцца, і ты разам з ім. Аж жыць не хочацца, нават „po kielichu", але тая кропля крыху суцешыць чалавека хоць на пару хвілін, нальe яму агнём жылы. Тады і заспяваеш, закрычыш, чаго табе хочацца ці хацелася, аж азвецца рэха ад пушчы.

**Кавалераў шмат**

у С. Калісь Зютку здавалася, калі яшчэ быў маладзейшы, што чалавек, якому за сорак, ужо старэча: бачыў жа свайго хваравекага, хоць учэпістага да працы бацьку, а раней і дзеда Івана, які ў свае сорак быў белы як галубок, перажыўшы шмат што ў сваім жыцці. Цяпер і ў Зютка, як у казцы: чорны волас — срэбны волас. „Гэта ад сівухі так пасівеў", — мяркуе Коля. Але, толькі тае сівухі не заўсёды стае, бо ўсё грош каштуе. Ну, папраўдзе, і Зютак піў або і не піў, калі не было за што. Бо які ж алкаголік, калі гаспадарку маеш. А калі, вось, зарэзаў быў бычка, то і піць, і есці было: на свежанінку збегліся з паўгміны аматары мець добрую закусь, кожны са сваёй бутэлькай. Пілі датуль, пакуль не з'елі нават бычковы вушы: пачалі ад сцягнутай з вяселля „чыстай", кончылі на выпаходстве Ізыдара з Б. (доўга меркавалі, хто яшчэ мог, што за пачастунак прывалок Ізыдар). Кончылі бычка і папляліся кожны ў сваю хату, а Зютак астаўся з рожкамі і капыткамі ды сваімі трыма метрамі бульбы на зіму.

**Адзінай „разрыўкай"**

былі турысты. Можна было крыху падзарабіць, упусціць на начлег у хату, павадзіць іх па лесе, паказаць месцы, дзе ходзяць рысі, дзе завяліся бабры... Ну і тыя вогнішчы на беразе! Прывалачэш галля, ламачча, чагосьці на распалку — грош маеш, і запросяць цябе ў кампанію. А калі і чарачка пойдзе ў рух! Не абмінуць жа чалавека!

— Занадта Зютак пачаў выдурняцца! — кажа Сцяпан Бярыцкі, шасцідзесяцігадовы гаспадар. — Хай ты голы і розум у цябе не першы, чаго з сябе рабіць блазна перад чужымі? Вядома, выпіць чалавеку хочацца, але і гонар мець якісь трэба. А то барукацца з кожным хоча, то збіраецца скакаць у вір, у Супрунчыкаву яму... А як завядзецца, то не супыніш: „Што, я-я-я?!! Я — не магу!? Ты ведаеш, з кім гаворыш?! То ж я ўсіх вас адным пальцам!.." І ад якоесь злосці такі страшны, моцны зробіцца, што хоць яго вяжы, путай, то вяроўку парве! Раз крыху сам супакоіўся, то падышоў да сасны і давай біць у камель галавою! Лупіў так, што мала чэрап не раструшчыў. А потым праспаўся ў карчах, і то на мокрым, ніякая халера яго не ўзяла. Рана нават не памятаў, адкуль у яго мазгаўня паабдзіраная, у крыві. Сядзе, бывала, плача, войска ўспамінае, дзяўчат, усе свае крыўды, а зараз ірвецца помсту рабіць, вядома, на тых, хто найбліжэй сядзіць.

**У той вечар**

Зютак быў апрануты акуратна — надзеў да джынсаў свой чысты, выхадны шэры пінжак, абуў белыя адыдасы. Пабрыўся. Варшаўскія госці прыехалі, сярод якіх быў нейкі чалавек з міністэрства, ці што. Зютак рабіў быў крыху ў лесе, займаўся насякомымі. Свае заўвагі штомесяц адпраўляў у Варшаву, за гэта прысылалі яму невялікі грош. Цяпер, у рамках ашчаднасці, міністэрства адмовілася ад яго паслуг...

— Здаецца, што яму, на п'яную галаву, думалася, што яго возьмуць у Варшаву, калі ён такі спецыяліст па караедах! — смяецца Ваня Скакоўскі. — Ну, у такім стане розныя думкі чалавеку прыходзяць у мазгавешку. Я яму сказаў, што гэта глупства: школы ж не мае па тых караедах і іншай заразе, а мала то вучоных у Варшаве сядзіць?! Ну, дурань, і ўсё. Але марыць то можна, ну не? Каб хоць вырвацца ў свет. А куды невучонага хочуць!..

— Цяпер то і я, каб быў маладзейшы, — дадае Адам Засімюк, — то сам пайшоў бы вучыцца. А калісь нават мае бацькі пыталіся: „Нашто *рольніку* школа? Хопіць ведаць тое, што дзяды ведалі, каб зямля радзіла. Тады з голаду не памрэш, абы табе *панства* жыць давала..."

**Заспяваў Зютак**

„Кацюшу" і пад хвальбу кампаніі ўзбег на кручу.

— Я заўважыў толькі, як ён узмахнуў рукамі, бы збіраўся паляцець, — кажа Коля Падлескі. — Так і паляцеў! Пакуль мы ачомаліся, узабраліся на высокі бераг, Зютка ўжо не было. Спачатку думалі, што зноў выпендрываецца, што схаваўся пад берагам, а тут... Варшавякі змыліся, што і следу не было, толькі іхнія каўбаскі і гарэлка на беразе асталіся...

Хлопцы вярнуліся піць да кастра. Коля ўзабраўся на ровар і хісткa памчаўся па лясной сцежцы ў вёску, да солтыса, каб той пазваніў у паліцыю.

Пасля таго дружбакі закідалі Колю Падлескаму, што патрывожыў іх святы спакой, калі качаліся ў попеле ля выгаслага кастра.

Не трэба было шукаць доўга — Зютка знайшлі пад карчамі за Супрунчыкавай ямай — запутаўся ў карэнне і водарасці шнуроўкамі ад ботаў.

— Ну, напіўся Зютак, то напіўся! — чорны гумар не пакідае ўчарнелага на твары Сярожу Катловіча. — Але ж, рачная вада, — гэта ж не гарэлачка! Паганая смерць. Лепш ужо скакаць ад перапою.

**Міра Лукша**

*P.S. Прозвішчы персанажаў зменены.*

*Казка для дарослых*

# Сябры

Даўным-даўно за палямі, за лясамі, за шумлівай сцяной Белавежскай пушчы жылі-былі сябры: Міхась Старэйшы, Кандрат Сярэдні і Кастусь Малодшы.

Жылі дружна, не сварыліся, на выпіўку разам хадзілі, з дзяўчатамі ў кампаніі гулялі. А калі хто ім дарогу заходзіў, адпор стойка давалі.

— Адзін за ўсіх! Усе за аднаго! — крычалі.

Прайшлі гады. З падросткаў сябрукі выраслі, сталі самастойнымі мужчынамі. На работу ўладкаваліся. Кандрат Сярэдні і Кастусь Малодшы пасады нядрэнныя дасталі. У начальнікі пайшлі. Толькі Міхасю Старэйшаму не пашанцавала, звычайным рабочым застаўся. Аднак надалей сяброўства не парывалі.

Міхась Старэйшы працаваў з Кандратам Сярэднім і Кастусём Малодшым на адным прадпрыемстве. Часта сустракаліся пры выпіўцы. Не было ў іх тады начальнікаў і падначаленых. Усе роўныя! Так, як даўней бывала.

Незадоўга Кастусь Малодшы пакінуў Кандрата Сярэдняга і Міхася Старэйшага. Перавялі яго на іншую работу.

Разваліласся кампанія. Не сустракаюцца ўжо Міхась з Кандратам. Гэты апошні, як начальнік, пачынае чапляцца за Міхася. Абы за што. Без дай прычыны. Крыўдна было Міхасю, што Кандрат з ім так абыходзіцца. Ды што ж мог зрабіць рабочы супраць начальніка? Начальнік, гэта начальнік!

Прайшлі гады. Кандрата пераводзяць там, дзе працаваў Кастусь, у родныя мясціны. Міхась застаецца адзінокі. Сумна яму стала без сяброў. Пачаў думаць, як сабе пайсці за калегамі. Ды не ведаў, ці можа спадзявацца на падтрымку сяброў-начальнікаў. Ці яго прымуць на новую работу?

Паслаў прашэнне ў сталіцу. Чакае тыдзень, чакае другі. Ніякай вестачкі. Надумаў Міхась сам паехаць у сталіцу. Растлумачу на месцы вышэйшаму начальніку ўсё дэталёва, — кажа жонцы. — Зразумее, паможа.

Як надумаў, так і зрабіў. Першым цягніком пашпарыў у сталіцу. Выслухаў Вышэйшы начальнік Міхася. Галавой пакруціў, нешта ў блакноце запісаў. Па тэлефоне з Малодшым чыноўнікам пагаварыў і кажа Міхасю:

— Разумею вашу сітуацыю. Спачуваю, ды не магу памагчы. Месца вам няма на новай рабоце.

— Пачакайце крышачку, — суцяшаў на развітанне Вышэйшы начальнік Міхася. — Мо нешта зменіцца, тады аформім...

Вяртаўся дамоў рабацяга са смуткам на твары, з крыўдай у сэрцы.

— Чаму ж гэта так? — думаў Міхась. — Усім месца знаходзіцца, а мне няма?

Мінуў яшчэ годзік, другі. Міхась пасылае наступнае прашэнне Малодшаму ўжо начальніку. А калі зноў атрымаў адмоўны адказ, не вытрымаў.

— Не сцярплю гэтага здзеку! Праўду, як павінны з чалавекам абыходзіцца.

А паколькі хлапец быў недурны, і знаёмствы ў яго былі вялікія, хутка апынуўся ў адной сталічнай установе. У кабінеце сядзела двух мужчын у форме.

Расказаў Міхась ім сваё гора. Усё, ад пачатку да канца. Нічога не прапусціў. А калі закончыў, адзін з прысутных, гэты ў прыгожым мундзіры з пагонамі, сказаў:

— Штосьці мне тут не падабаецца...

А потым дабавіў:

— Былі вы ў Вышэйшага начальніка?

— Быў... Ды нічога не памог. Абяцаў толькі...

— Апішыце ўсё на паперы тое, што тут нам расказалі, — кажа другі ўраднік Міхасю. — Паспрабуем памагчы...

Вяртаўся Міхась дамоў з надзеяй у сэрцы.

У хаце расказаў жонцы, як вырашыў сваю праблему, як прынялі, што сказалі.

Засталося толькі чакаць выніку.

І Міхась чакаў. Чакаў доўга, нецярпліва. А калі ўжо патраціў усякую надзею на станоўчы вынік, тады адмысловы пасланец ад Начальніка з новай работы паведаміў Міхасю, каб той хутка з'явіўся ў канторы.

На гэты раз справа канчаткова вырашылася. Міхася перавялі на іншую работу. Туды, дзе яго сябры-начальнікі працавалі. Ды не яны памаглі Міхасю ўладкавацца на новую пасаду, а ўраднікі гэтае ўстановы.

— Сапраўдных сяброў пазнаецца ў бядзе, — падумаў Міхась, пераступаючы парог ужо новага месца работы.

**Уладзімір Сідарук**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Наступала восень 1939 года. Нарэшце гэтая справядлівая дзяржава прыйшла і да нас. І вельмі хутка і наглядна пераканала нашых людзей, што хто дасюль так прыгожа думаў пра савецкую дзяржаву, не меў рацыі, на жаль. Або меў не да канца. А ўжо той, хто ў савецкі дабрабыт і справядлівасць верыў, той і зусім на дурня выйшаў.

Нашы тутэйшыя беларусы былі ў асноўным сялянамі. Савецкая ж улада сялянства не любіла. А ўжо індывідуальнага селяніна проста ненавідзела. Хутка нашы крыху замажнейшыя сяляне даведаліся, што яны кулакі, а іх погляды — працўнаабывацельскія. Па савецкіх тагачасных мерках аказалася, што гэтых кулакоў не так ужо і мала ў нас.

Пачалі арганізаваць калгасы, а хто не ішоў ахвотна ў іх, таго абкладалі штораз большымі падаткамі і іншымі павіннасцямі, як напрыклад, рамонт дарог, лесанарыхтоўкі і гэтак далей. І нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя абавязкі выконваў наш народ сумленна, пачалі рыхтаваць спісі, каго трэба вывезці на белыя мядзведзі, як у нас казалі. Пра васьмігадзінны дзень працы селяніну ніхто і не заікаўся. На выкананне ўсяго, чаго ўлады патрабавалі ад мужыка, часта і шаснаццаці гадзін было замала...

Да яснейшых момантаў таго часу ў маёй вёсцы трэба залічыць тое, што пачалі будаваць новую прыгожую школу. Да пачатку нямецка-савецкай вайны яе дакончыць не ўспелі. У час нямецкай акупацыі яе загадалі разабраць і перавезці ў вёску Храбалы, дзе яна, падобна, і дасюль стаіць і служыць народу. На добрую справу жыхары Храбалоў павінны заплаціць маім аднавяскоўцам за яе, але чамусьці не рвуцца да платы, жміндзы.

Гаворачы пра так важную справу, як свая школа, трэба аддаць доўг справядлівасці: вёска Піліпкі мела сваю ўласную школу толькі ў час царызму і мела мець за першых саветаў. За нямецкай акупацыі, санацыйнай і народнай Польшчы ўласнага школьнага будынка Піліпкі не мелі.

Цяпер яе таксама не маюць. Яна і непатрэбная цяпер, бо хто будзе вучыцца ў ёй? Пенсіянеры хіба? Але яны ж у нас адукаваныя. Дзетак маленькіх там амаль зусім ужо няма і, здаецца, не будзе. Там дажываюць свой век пенсіянеры, а яны, як вядома, дзетак нам не народзяць, раскошнымі сталі.

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**16 лютага**

1289 г. — спачыў свяціцель Сімяон, сёмы епіскап полацкі і першы цвярскі. Аднойчы полацкі князь Канстанцін спытаў свяціцеля: „Дзе будуць дрэнныя цівуны на тым свеце?” Сімяон адказаў: „Там, дзе і князі. Калі князь добры і богабаязны, шкадуе людзей і любіць праўду, тады паставіць цівуном чалавека добрага і богабаязнага, і князь пасля будзе ў раі і цівун ягоны з ім. Калі ж князь не мае страху Божага, не шкадуе хрысціян, не думае пра сіроты і ўдовы, і паставіць цівуна злога і непамяркоўнага, каб толькі грошы яму з людзей дзер — тады князь будзе ў пекле і цівун ягоны будзе з ім.”

**18 лютага**

1294 г. — памёр хан Хубілай, унук Чынгісхана. Народжаны ў 1215 г., у 1260 г. аб'яўлены вялікім ханам. У 1279 г. звяргае паўднёвакітайскую дынастыю Сонь і засноўвае дынастыю Юань, якой улада ўпершыню ахоплівае ўвесь Кітай. Узначальваў ваенныя паходы, у выніку якіх заваяваў Карэю, Індакітай, востраў Яву і частку Малайскага паўвострава. У 1274 і 1281 гг. прабаваў заваяваць Японію, аднак спробы гэтыя з увагі на неспрыяючае надвор'е праваліліся. Перанёс сталіцу свае дзяржавы з Каракарума ў Пекін. Быў апекуном літаратуры і мастацтва. Прыняў будызм, стаў яго гарачым паклоннікам і апавясціў дзяржаўнай рэлігіяй, захоўваючы аднак рэлігійную талерантнасць. Ахвотна бачыў у сваёй дзяржаве чужаземцаў, якіх браў на дзяржаўную службу. У 1275 г. на яго двары пабываў слаўны венецыянскі падарожнік Марка Пола.

**21 лютага**

1513 г. — памёр папа Юлій II. Народжаны 5 снежня 1443 г. Джульяна дэла Раверэ стаў свяшчэннікам у 1468 г. Яго дзядзька, папа Сікст IV узвысіў яго ў ранг епіскапа і кардынала. У 1492 г., калі папам Аляксандрам VI стаў яго вораг Радрыга Борхія, уцёк у Францыю. Пасля смерці папы вярнуўся ў Рым і тут жа быў абраны папам, прыняўшы імя Юлій II. Хаця быў выбраны дзякуючы ўзяткам, адразу забараніў хабарніцтва пад пагрозай пакарання. Галоўнай мэтай свайго пантыфіката вызначыў павелічэнне і ўзмацненне Папскай дзяржавы. Заключаючы саюзы з Аўстрыяй і Іспаніяй, адваяваў у Венецыі і Францыі паўночную частку Апенінскага паўвострава. Асабіста ўдзельнічаў у ваенных змаганнях, улазячы па драбіне на асаджваемыя яго войскам крэпасці. Галоўнай яго апорай сталі наёмныя швейцарцы, з якіх і асталася сённяшняя папская швейцарская гвардыя. Юлій II быў выдатным апекуном мастацтва, сябраваў з Брамантэ, Рафаэлем і Мікеланджэлам; апошняму даверыў роспіс Сікстынскай капліцы ў Рыме ў 1508—12 гг.

**22 лютага**

1857 г. — нар. Роберт Бадэн-Паўэл, заснавальнік скаўтынгу. Удзельнік паўднёваафрыканскай вайны 1899—1902 гг., вызначыўся там абаронай Мафекінга падчас яго працяглай аблогі бурамі. Пасля вайны Бадэн-Паўэл напісаў падручнік па разведцы, які здабыў вялікую папулярнасць сярод чытачоў, асабліва моладзі. У 1908 г. напісаў такі ж падручнік, адрасаваны спецыяльна моладзі і заснаваў першую скаўцкую арганізацыю, якая ставіла сваёй мэтай дапамагаць маладым людзям развіваць характар, выяўляць здольнасці, вучыць паводзін у калектыве, а таксама прывіваць патрэбу працы для грамадства. Памёр 8 студзеня 1941 г.

**(Ш)**

# *Парнасік*

## Зіма

Усюды бела-бела.
Мароз шчыпае за шчокі.
Як прыгожа выглядаюць
галінкі дрэў інеем пакрытыя.
З неба на зямлю ляціць снег,
быццам белы мяккі пух.
Пад снегам, як пад пухавай
пярынай, спіць азіміна.
З поўначы прыляцелі снегіры.
Не агледзеліся мы, а тут і
Каляды прыйшлі!
Ходзяць з гвяздай калядні́кі.
Радасна спяваюць аб нараджэнні
Хрыста Збавіцеля, дзякуюць
гаспадарам за грашовы дар.
Неўзабаве Новы год прыходзіць.
Зноў прыбывае нам гадоў!
На Вадохрышча бярэм
свянцоную ваду з царквы і
галінку ёлкі, каб сцерагла
нас ад усякай бяды!
Пасля прыйдуць Грамніцы.
Будзем глядзець, ці на Грамніцы
нап'ецца певень вадзіцы, тады
ў траўні вол з'есць травіцы.
Зіма трошачку памарозіць.
Снегам пасыпле, дарогі аблёдзіць.
Дзецям шмат радасці дае.
Снегавіка злепяць ці з гары
ў далiну на санках з'едуць.
Коўзаюцца на каньках і лыжах.
Часам кулігам у лес паедуць.

**АЎРОРА**

## Таўкучка

Пад бярозай, у цянёчку,
Села баба на пянёчку.
Стала там адпачываць,
Свае косці распрастаць.
Змучылася баба зранку,
Бо так шчыра працавала.
Потым расселася на ганку,
Мужа з таўкучкі выглядала.
Мужык белы, небарака,
Цягаецца як сабака,
Спіртам, водкаю гандлюе,
Ды чужых бабаў цалуе.
Жонка мужу давярае,
І гандляваць пасылае
Ў Гайнаўку, Бельск, Беласток,
Каб зарабіць крышку мог.
Прамінаюць так дзянькі,
Ды гады пралятаюць,
Па таўкучках мужык ездзіць,
Грошы зарабляе.
Па базарах ездзіў ён,
І моцна разжыўся,
А пра сваю гаспадарку
Зусім прызабыўся.
Цяпер ён не прызнае
Ні жонкі, ні хаты,
Па карчмах ходзіць ды п'е,
Бо стаўся багаты.

**Мікалай Лук'янюк**

## Адгалоска на „Дом” Ады Чачугі

Пабудавалі дамы і палацы
І шмат было працы,
Каб пабудаваць такі дом.
А ці ў іх жыцці быў „пералом”?
Каб жыць як людзі, раскошна,
Для такіх хапае грошай і можна
У пакоях блішчэць як люстра.
Ды іх ахапіў эгаізм і асобая „муштра”.
Назвалакалі рэчаў дарагіх,
Накуплялі іншых залатых.
Думаюць: чарвяк і моль іх не з'ядуць
І без бяды пражывуць.
І самі ў падвалах гнездзяцца,
І ўсё штодзённае там месціцца.
Аглядаюць тэлевізар аблуплены,
За марныя грошы купляны.
Тапчан дзіравы, брудны,
На ім сядзіць дзядзька „марудны”,
Жыве як дзед-жабрак
Наш багаты небарак.
Затое на паверсе цуда,
Няма пылінак ні бруду,
Пакоі там на паказ
Для гасцей мо ў адзін раз.
Гаспадыня ганарлівая,
Для гасцей заўсёды мілая,
Золатам ачэплена блішчыць —
Нічога, відаць, не баліць.
А жыць у ілюзіі дзівосна
Ядуць абеды посныя.
А багацце — для вачэй,
Напаказ для гасцей.
Чачуга напісала „Дом” цікава,
У яе герояў пустая слава.
Іх дамы, багацце — мёртвыя
І таму іх дні кароткія.
Дом жывы няхай будзе сціплы,
Не галосны, а лепш ціхі.
Хвальбы там не пачуеш
І спакойна заначуеш.

**Мікалай Панфілюк**



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. нямецкі кампазітар (1833—1897), 4. твор Джавані Бакачыо, 6. лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы ў 1964 г., 7. круглая металічная пасуда, 9. згода, спакой, парадак, 11. возера і правінцыя ў Канадзе, 12. перапынак падчас спектакля, 13. даўні жыхар нашых лясоў, 15. горад у Чылі, 17. Джэймс, аўтар „Уліса”, 18. маторны спорт, 19. вялікая рыбалоўная сетка.

**Вертыкальна:** 1. той, хто падмяняе, 2. Васіль, беларускі пісьменнік, 3. лік, 4. лад з неабмежаванай уладай пануючага, 5. карціна з неадушаўлёнымі прадметамі, 6. пасуда, 8. англійскі фізіёлаг (1879—1916), 9. яго жонка замянілася ў слуп солі, 10. падарунак, 14. беднасць, галеча, 16. мужчынскае імя, 17. лясная птушка з сям'і вераб'іных.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 52 н-ра:**

**Гарызантальна:** твіст, табурэтка, барон, Менск, сык, галодны, Уругвай, рак, амега, гідра, разбойнік, цалок.

**Вертыкальна:** Гібрыды, табун, татэм, тэрмометр, аднагодак, брага, Кааба, сыр, Кук, аглобля, абзац, ганак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свяводзіц і **Лявону Федаруку** з Рыбалаў.

# Адгалоскі

Ёсць група беларусаў, думаю, што невялікая, былых дзеячаў розных масці, нават, як пішуць, адукаваных, якім са старасці ўжо або з іншай прычыны ўсё блытаецца (Лукашэнку лічаць, напрыклад, патрыётам Беларусі!?). Рэдакцыя „Нівы” публікуе гэткую балбатню, бо як жа інакш — дэмакратыя. Інакш як балбатнёй „артыкул” Мікалая Капчука („Ніва” н-р 4 з гэтага года) назваць нельга. Маюць так званыя публіцысты многа часу, то пішуць, пішуць і пішуць, выказваючы погляды наогул на ўсе праблемы, якія хваляюць публіцыстаў з тэлебачання, бо і тэлебачанне аглядаюць ад рана да вечара. Шкада, што калі мелі магчымасць рашаць аб многіх розных справах, не рашалі так, як цяпер думаюць. Але што рабіць, калі бракуе ў „Ніве” сапраўднай публіцыстыкі, ці трэба (а можа і не трэба?) змяшчаць так званую „публіцыстыку”?

**Міхась Куптэль**


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




Малюнак Д. ПАЛІКАРПАВА

## Сентэнцыі Надзеі Руско

Калі пасееш горкую гарчыцу, то не сажнеш добрую пшаніцу.

* * *

Адзеў чаравікі, а сляды босыя.

* * *

Жыццё, як вузкая кладачка цераз рэчку — ідзі ёю проста.

* * *

Сцеражыся не аднаго, а двух ценяў.

* * *

Садзі дрэўца і ў сто лет, падзякуе табе свет.

* * *

Язык касцей не мае: што хоча, то і балбоча.

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Парадачны мужчына з гэтага Мікалая, ніколі пра нікога не азвецца дрэнным словам.

— Дык аб чым жа ён гаворыць?

— Толькі аб сабе.

* * *

Гутараць два мужчыны, якія толькі што пазнаёміліся на прыёме:

— Я ў сваім самаходзе прымяняю цяжкія і вынослівыя шыны. А вы?

— Я аддаю перавагу лёгкім і далікатным.

— А на якой машыне вы ездзіце?

— Не маю зусім аўтамабіля, затое часта прыходзіцца мне пераходзіць цераз галоўную вуліцу.

* * *

У трамвай сядае паляўнічы са стрэльбай.

— Забярыце гэта ружжо, бо што будзе, калі яно выстраліць, — нервуецца адзін з пасажыраў.

— Зараджу яшчэ раз.

* * *

Размаўляюць дзве актрысы:

— Чула ты навіну? Праз тыдзень Зоя выходзіць замуж!

— Удалося ёй! Нарэшце сыграе галоўную ролю.

* * *

Гутараць два сябры:

— Свайго маёнтку дабіўся я дзякуючы настойлівасці.

— А я думаў, што ты атрымаў спадчыну...

— А ведаеш, якой настойлівасці патрабуе чаканне яе!

* * *

Размаўляюць два студэнты:

— Учора пасварыўся я з бацькам; ніколі ўжо больш, нат гроша, не вазьму ад яго.

— Дык як жа ж ты будзеш жыць?

— Буду браць ад маці.

* * *

— Вася, чаму ты носіш парасон, калі стаіць пагода?

— Бо калі ідзе дождж, тады носіць яго жонка.

**У кіпцюрах цецерука**

## Беласток

Доўгі час я не мог здагадацца, чаму Беласток — горад вельмі дарагі. Квадратны метр кватэры каштуе тут больш, чым у Варшаве, а пляц пад будоўлю, куплены ў Нью-Йорку і прададзены ў Беластоку, нават пасля адлічэння немалых коштаў транспарту, дае ладны прыбытак. Цяпер ужо ведаю: Беласток — гэта горад выключны, а апрача гэтага авангардны. Там-сям, што святлейшыя адзінкі пачынаюць гаварыць пра Парыж як пра Беласток Захаду. Спытаеце, у чым выяўляецца выключнасць нашага горада?

Калі б вам нехта сказаў, што ў двухсоттысячнай метраполіі жывуць побач сябе сто тысяч украінцаў, сто тысяч беларусаў, ды яшчэ амаль дзвесце тысяч палякаў, вы ніколі не паверылі б. Прабачце, у гэты момант паводзіце сябе як яўрэй з вядомага анекдота. Пабачыўшы ўпершыню жырафу, ён закрычаў, што гэта няпраўда, і што такой жывёліны напэўна няма. Аказваецца, аднак, што ўсё ў нас магчыма. Жывуць сёння побач сябе і яўрэі, і жырафы, а некаторыя крайнія правыя палітыкі нават у жырафах бачаць яўрэяў. Беласток, як і белая варона, з'ява выключная. За арыгінальнасць людзі плацяць любыя грошы. Весялейшыя для Беластока перспектывы, цэнавыя прынамсі, бачу ў стварэнні камітэта для вайны з парнаграфіяй. Ужо Фрэйд абвясціў простую праўду, што галоўным маторам людскога дзеяння з'яўляецца секс. Кожнае творчае дзеянне павышае цывілізацыйны ўзровень. Беласток першым у свеце пачаў выключаць галоўны матор творчага дзеяння. Вярнуўшыся да цэпа і крамянёвых прыладаў, а няма сумнення, што нічым другім не з'яўляецца руцінна-барханавы, абмежаваны дробнабуржуазнымі забабонамі секс, горад пойдзе на схіл. Цэны таксама. Быў бы гэта першы ў гісторыі выпадак, каб арыгінальнасць і авангард горада давялі яго да заняпаду.

Можна, аднак, спадзявацца, што ініцыятары акцыі атрымаюць тое, чаго ў сапраўднасці патрабавалі, г.зн. забяруцца ў Сейм, або прынамсі ў гарадскі магістрат. У такім выпадку Беласток пойдзе ў раней абраным напрамку, а свет разам з ім.

Беласток — горад выключны і таму, што ён менавіта пачынае новую эпоху ў гісторыі хрысціянства. Да гэтай пары важнае было, каб чалавек прыняў хрышчэнне. Жывучы больш-менш у згодзе з дзесяццю запаведзямі мог спадзявацца на людскую, а мо нат і боскую прыхільнасць. Новы рэфарматар, не ведаю — Царквы ці Касцёла, беластачанін Алесь В. (вельмі кароткае прозвішча; і добра, лягчэй запомніцца чужаземскім дзеткам, калі будуць вывучаць гісторыю) адкідае сакрамант хрышчэння, прынамсі ў цяперашняй, традыцыйнай форме. Сам акт хрышчэння адсоўвае на другі план, на першым паставіўшы імя. Яно (паводле рэфарматара) вырашае, ці чалавек сумленны, ці падлюга. Вырашае аднак толькі тады, калі імя адпаведна дапасаванае да дзяржавы, у якой прыйдзецца жыць кандыдату ў хрысціянскую веру. Канец з імёнамі ў гонар продкаў або абранымі з календара. Нарадзіўся ў дзень святога Яна, дык пакутуй як Ян да канца дзён сваіх! У Польшчы добрыя імёны гэта Мечыслаў, Станіслаў, Зянон. Тое, што Станіславы з Сяргеямі танцуюць час ад часу ў адной пары вынікае хіба з агульнага гультайства.

Беласток гэта выключны горад. Страх падумаць, але тут менавіта нарадзіўся загавор супраць беларускага прэзідэнта, а абвяшчае гэта ўсяму свету, вядома ж, Алесь В.

Не верыце? Я таксама доўга адкідаў ад сябе гэтую брыдкую, агідную думку. Усётакі факт ёсць фактам, а напісанае пяром, не вырубіш тапаром.

Хадзеце тады следам вэалесевага разважання: трэба пагнаць з Беларусі Мечыславаў, Станіславаў і Зянонаў. Ці гэта кепскія людзі? У прынцыпе не, яны толькі кепскія беларусы (хочуць прадаць Беларусь), затое яны добрыя палякі (хочуць прадаць Беларусь Польшчы). Вывад: што добрае Польшчы, зусім не прыстае да Беларусі.

Паслухайце далей. Войцех — гэта вельмі добры польскі прэзідэнт. Лагічна думаючы, можна сказаць, што ягоны вучань Аляксандр таксама вельмі добры польскі прэзідэнт.

Што добрае Польшчы...

Страх падумаць. Услед за Мечыславамі, Станіславамі і Зянонамі прыйдзецца беларускаму прэзідэнту самагубным дэкрэтам вытурыць з пасады і Аляксандра.

**Міхась АНДРАСЮК**

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Даруй, што не пішу я сёння пра каханне. Аднак жа пара цяпер карнавалу, людзі наведваюць адзін другога, дык мо хтось адгукнецца і выкажацца на тэму майго ліста.

Справа ў тым, што мы з мужам бываем у гасцях у адных знаёмых. I кожны раз гаспадыня наракае, як яна старалася пры падрыхтоўцы гэтай гасціны. Праўда, на стале бывае ўсяго многа і гатуе яна добра, але не відаць пасля на яе твары ні радасці, ні ўсмешкі ад таго, што людзям гэта смакуе. Сядзіць, быццам некага пахавала. Вядома: чалавек змучаны.

I нядаўна зноў былі мы ў тых людзей, і менавіта апошні візіт прымусіў мяне напісаць гэты ліст. Даражэнькае Сэрцайка! Ну, і што з таго, што на стале было поўна розных страў. Было і рыбы, і мяса, і пірагоў, але, кажу табе, настрою не было. Гаспадыня, відаць, ужо дала з сябе ўсё, што магла, і больш нічога гасцям даць не магла. Або яе не было, бо мыла посуд, або мо прылегла, або сядзела, быццам індык, надутая і паўпрытомная. Не брала ўдзелу ў размовах гасцей. Ведаеш, калі б гасцей было шмат, дык яны бавіліся б самі, а нас было ўсяго дзве пары. Таму адсутнасць гаспадыні — фізічную ці псіхічную — усе адразу заўважалі.

Яе муж, бачачы недаўменне гасцей, апраўдваўся: „Цэлую ноч, бедная, рабіла, аж да раніцы!” Мне кусок у горле стаў: нельга было зрабіць раней або менш?.. Ці ж абавязкова трэба пакідаць на апошнюю ноч?..

Я не па злосці, але каб ужо не мучыць гаспадыню, кажу мужу паціху, што трэба збірацца. I так нейк хутка мы выйшлі, а другая пара гасцей — з намі. Усім было крыху непрыемна, бо адчувалі сябе так, быццам бы былі няпрошанымі, а не запрошанымі гасцямі.

А я думаю, што госць гэта наш пан, і для яго мы перш за ўсё робім нейкі прыём. А ён жа не прыйшоў адно насесціся! Ён прыйшоў, каб прыемна правесці час. Пагаварыць, пасмяяцца, каб адарвацца ад шэрай штодзённай рэчаіснасці. I пра гэта павінны задбаць гаспадары.

Па-мойму, калі гаспадыня не адчувае, што дасць рады зрабіць вялікі прыём, павінна скараціць да мінімуму меню. Можна ж проста спячы ў духоўцы кавалак мяса, а нават на адну бляшку палажыць разам розныя гатункі мяса — тлусцейшыя і без тлушчу, зрабіць пару салатаў, зварыць і заліць рыбу, нешта даць на дэсерт. А нават можна дакупіць гатовых вяндлін, якіх сёння шмат у кожнай краме. Можна выбраць нешта арыгінальнае.

I калі ўжо гаспадыня наважылася склікаць гасцей, дык трэба пачынаць падрыхтоўку значна раней. У апошнюю ноч трэба выспацца, каб магчы бавіць гасцей, смяяцца і цешыцца разам з імі. А нават, калі ўжо не спала ноч, дык ніхто з гасцей не мае права не толькі гэта бачыць, але і падазраваць, што гэта здарылася.

Я, напрыклад, калі раблю гасціну, дык стараюся падрыхтаваць усё загадзя. Купляю ўсё, марыную мяса, чышчу селядцы і заліваю іх алеем, а пасля толькі вымаю іх са слоіка і раблю на розныя спосабы, тру хрэн, чышчу рыбу і г.д. і т.п.

А ў апошні дзень толькі запраўлю некаторыя стравы, а найбольш часу прысвячаю сабе. Купаюся, ачышчаю рукі пасля ўсіх прац (найлепш кавалкам лімона), раблю прычоску, стараюся прыгожа апрануцца. Гаспадыня павінна быць чысценькая, акуратная і прыгожа пахнуць. Каб яна была часткай гасціны, а не нейкім нябачным робатам.

Мне зусім не хочацца ісці ў госці да тых людзей, у якіх былі мы апошнім разам. А што ты на гэту тэму думаеш, га, Сэрцайка?

**Рома**

Рома! Калі вы ў вельмі блізкіх адносінах з імі, дык па-сяброўску можна гэтай гаспадыні параіць, каб рыхтавала менш, бо ты не любіш быць у яе ў гасцях, калі яна „непрысутная”. Калі ваша знаёмства „службовае” ці проста далейшае, раю спаслацца на галаўны боль ці іншую прычыну, каб не прыйсці. Навошта катаваць сваіх знаёмых ды яшчэ сябе?!

Ты добра, правільна рыхтуешся да гасціны ў сваёй хаце. Глядзі толькі, каб не выглядала занадта элегантна. Ніколі невядома, хто ў што апранецца, і быў бы гэта вялікі канфуз, калі б гаспадыня выглядала прыгажэй за госцю і госця адчувала б сябе кепска. Госці ў кожным доме павінны адчуваць сябе найлепш. Таму гаспадыня мусіць быць апранута скромна і не надта моцна пахнуць.

**Сэрцайка**